Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4920) 28 красавіка 2017 г.



# Цяпер, без чалавека

**Прырода асобных раёнаў Палесся не ведае, што яна ў зоне. Квітнее і прарастае, дзе, здаецца, прарасці немагчыма. Не зважае на чорную быль, адчайна ўтаймаваўшы боль пакінутасці, запаўняе пустэчу там, адкуль сышлі людзі.**

Гэта фіксуе фатограф Уладзімір Верабей і дзеліцца ўражаннямі ад Палесся ў фотавыстаўцы «Чарнобыль. Погляд з сучаснасці», што прадстаўлена ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Ён любіць вандраваць па тых мясцінах — можа быць, каб падзяліць іх драму, паслухаць аповеды пра былое жыццё ад людзей, якія ўсё адно імкнуцца туды, дзе іх дом. Ёсць тыя, хто сціпла дажывае ў трыумфе ўпартай прыроды, — адзінкі. Яны маюць ціхую надзею на магчымы трыумф чалавека, які вернецца і, падобна дрэвам, некалі адстаіць сваю тэрыторыю ў пустых шляхоў і закінутых хат.

Тут можна здымаць, калі адчуваеш моцную прывязанасць да гэтых мясцін. Уладзімір Верабей здымае на Гомельшчыне. Ён узгадаваны Народным універсітэтам фотамастацтва пры фотаклубе «Палессе», свае работы неаднаразова прадстаўляў у Беларусі, здолеў зацікавіць замежнікаў беларускімі пейзажамі. Яны чароўныя, ці не так?

**Марыя АСІПЕНКА**


*Фота Уладзіміра Верабя.*


*Фота з сайта people.onliner.by.*

**Згодна з падлікамі, на Радаўніцу традыцыйна зону радыяцыйнага адчужэння наведваюць больш як 50 тысяч чалавек. Спрошчаны парадак пропуску дзейнічае сёлета з 30 красавіка па 3 мая. Гэтымі днямі ўсе, хто жадае наведаць месцы пахавання родных і блізкіх, могуць свабодна заязджаць на закрытыя тэрыторыі.**

**...Кожную вясну, за некалькі тыдняў да Радаўніцы, пачынае балюча шчыміць сэрца, а душа рвецца туды, за трыста кіламетраў ад сталіцы, у родны дом, ахутаны чарнобыльскай бядою. Праўда, ад бацькоўскай сядзібы ўжо мала што засталося, — сумныя сцены калісьці заможнай хаты, любімая яблыня пад акном ды горка-горкія ўспаміны... Цяпер толькі раз на год, падчас святкавання Радаўніцы, можна з'ездзіць у былую вёску, каб зайсці на могілкі, дзе пахаваны дзядуля з бабуляю ці бацькі, пакланіцца ім, паставіць свечку, падзякаваць, што калісьці далі жыццё, якое мае цяпер працяг…**

**А яшчэ кожным разам чакаеш сустрэч — са сваякамі, суседзямі, аднакласнікамі… Адных адразу пазнаеш па знаёмай усмешцы, другія самі падыходзяць, каб кінуць слова-другое, трэція яшчэ здалёк махаюць рукою.**

**За размовамі-ўспамінамі непрыкметна пралятае дзень: развітанне, абдымкі, слёзы… На душы горка. Толькі праз год, на Радаўніцу, зноў можна будзе пабачыцца, бо разнесла чарнобыльская бяда нас не толькі па Беларусі, але і па ўсім былым Савецкім Саюзе...**

Працяг тэмы на стар. 10 ▶

## Пункціраў

✔ Дзяржава заўсёды будзе падтрымліваць адораных і творчых асоб, асабліва тых, хто сваімі работамі натхняе мільёны людзей, праслаўляе нашу краіну, падкрэсліў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся з Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу. У нас цудоўная літаратура, музыка, жывапіс, архітэктура, якія жывяць і захапляюць. «Нам дарагая наша выразная мова, якую трэба берагчы, вывучаць і развіваць. Нам пакінута ў спадчыну гераічная гісторыя, якую неабходна памятаць і напаўняць новымі здзяйсненнямі, каб з годнасцю перадаць будучым пакаленням беларусаў. Гэта каштоўныя складнікі, якія даюць магчымасць не згубіцца сярод мноства нацый і народнасцей, адчуваць сябе адзінай самабытнай сям'ёй, цаніць сваю свабоду і незалежнасць», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Сродкам масавай інфармацыі незалежна ад таго, які пункт гледжання яны прадстаўляюць, трэба быць больш адказнымі ў медыйнай прасторы, адзначыў Прэзідэнт Беларусі ў Пасланні беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу. «У барацьбе за сваю аўдыторыю нельга забываць, што толькі аб'ектыўная і дакладная інфармацыя з'яўляецца галоўным іх інструментам, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Не трэба спрабаваць нешта згладзіць або прыхарашыць — гэта толькі падарве давер да вас. Паколькі атрыманне праўдзівай, поўнай і своечасовай інфармацыі — канстытуцыйнае права нашых грамадзян. І вы павінны яго забяспечыць. Гэта адзін з асноўных фактараў нацыянальнай бяспекі краіны».

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў калектыў Беларускай дзяржаўнай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармоніі з 80-годдзем з дня яе заснавання. «Дзякуючы намаганням некалькіх пакаленняў артыстаў ваша ўстанова па праве лічыцца вядучай канцэртнай арганізацыяй краіны, — адзначыў кіраўнік дзяржавы. — Творчая дзейнасць калектываў і выканаўцаў філармоніі садзейнічае фарміраванню культурнай прасторы краіны, пашырэнню і ўмацаванню міжнародных кантактаў». Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што калектыў і ў далейшым будзе ўзбагачаць духоўную скарбніцу народа, садзейнічаць эстэтычнаму выхаванню маладога пакалення, радаваць новымі яркімі праектамі.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў калектыў Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі з 90-годдзем з дня яго стварэння. «Дзейнасць вашага калектыву стала важкім укладам у айчынную культуру, устойлівым падмуркам развіцця і папулярызацыі нацыянальнага музычнага мастацтва, — адзначыў Прэзідэнт. — У выкананні аркестра лепшыя ўзоры сусветнай класікі і сучасныя творы беларускіх аўтараў набываюць асаблівае гучанне. Майстэрства вашых музыкантаў вызначаецца высокім прафесіяналізмам, захапляе не адно пакаленне слухачоў як на Радзіме, так і за яе межамі».

# Беларуская мова на радзіме Сервантэса

Урывак з рамана «Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчскі» прачытаў у Доме-музеі Сервантэса ў гарадку Эсківіяс Часовы паверараны Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Іспанія Аляксей Панфёраў. Гэта адбылося ў рамках юбілейных X Сервантэсаўскіх чытанняў, дзе па традыцыі прадстаўнікі замежных дзяржаў чытаюць урыўкі са знакамітага твора на сваіх мовах.




*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# РАДКІ З РАЗАНШЧЫНЫ

Сярод вуліц Партызанскага раёна сталіцы ёсць і названая імем Героя Савецкага Саюза Дзмітрыя Фролікава, ураджэнца вёскі Краснае Сапажкоўскага раёна Разанскай вобласці. Разанскую дэлегацыю, якую прынялі настаўнікі і вучні сталічнай СШ № 133 на чале з дырэктарам Ірынай Шчая-Зубравай (а школа гэтая месціцца якраз на вуліцы Фролікава), днямі сустракалі ў сталічным Доме літаратара.

Дэлегацыю з Разаншчыны ўзначаліў сябар Расійскага саюза прафесійных літаратараў, кіраўнік літаб'яднання «Глубинка», удзельнік і лаўрэат многіх міжнародных літаратурных конкурсаў, грамадскі дзеяч Міхаіл Даньшоў. Дарэчы, менавіта Міхаіл Аляксеевіч ініцыяваў перайменаванне адной з вуліц вёскі Краснае, малой радзімы героя, у вуліцу Фролікава.

А яшчэ пры падтрымцы адміністрацыі г. Разань быў абвешчаны конкурс на лепшую работу, прысвечаную жыццю і подзвігу Дзмітрыя Фролікава. Прызам для пераможцаў — Настассі Данілавай, Настассі Бычковай, Аліны Кісялёвай і Мікіты Кузіна — стала паездка ў Мінск. Разам з імі прыехала і Вера Іванова, пляменніца Дзмітрыя Фролікава.

Памятныя сувеніры гасцям імпрэзы ўручыла намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Наталія Касцючэнка. А Міхаіл Даньшоў перадаў Мінскаму гарадскому аддзяленню экзэмпляры новага нумара маскоўскага літаратурнага часопіса «ЛиФФт».

**Арына КРАЙКО**

# Маладых кампазітараў натхняе Багдановіч

У годкі беларускага паэта адзначаюць у Маладзечне на міжнародным форуме Творчых майстэрняў Маладзёжнага аддзялення Саюза кампазітараў Расійскай Федэрацыі. Форум ладзіцца на базе Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага і скіраваны на падтрымку маладых кампазітараў краін СНД.

Сустрэчы ў Маладзечне — гэта працяг першага этапу Творчых майстэрняў, які адбыўся ў снежні 2016 года і аб'яднаў прадстаўнікоў творчай моладзі Беларусі і Расіі. Гэтым разам праграма не менш насычаная і карысная, як, напрыклад, майстар-клас сакратара Саюза кампазітараў Расіі віяланчэліста Яраслава Судзілоўскага. Акрамя таго, маладыя кампазітары пішуць творы падчас працы Творчых майстэрняў. З гэтых твораў складзена праграма, што прагучыць у Маладзечне 28 красавіка ў выкананні аркестра пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча Рэспублікі Беларусь Рыгора Сарокі. Але вынікі форуму падвядуць у Мінску 29 красавіка пры ўдзеле народнага артыста СССР і старшыні Саюза кампазітараў Беларусі Ігара Лучанка.

**Марыя АСІПЕНКА**

# «ЮДЗІФ» У *ALMA MATER* ДРАМАТУРГА

Прафесар філалогіі і слынны беларускі драматург Сяргей Кавалёў, аўтар больш чым 30 п'ес, што пастаўлены тэатрамі Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны, Славакіі, завітаў з Любліна ў Мінск, на кафедру гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Колішні выпускнік БДУ прачытаў сённяшнім студэнтам свой новы твор — камедыю «Юдзіф».

Поўны тэкст п'есы атрымаў высокую ацэнку на Рэспубліканскім конкурсе ў гонар Францыска Скарыны. Прачытаў жа аўтар новую версію «Юдзіфі», зробленую для пастаноўкі ў Гродне рэжысёрам Алегам Жугждам, з якім у Сяргея Кавалёва склаўся выдатны творчы тандэм.

Менавіта ў прадмове да перакладу біблейскай кнігі «Юдзіф» Францыск Скарына напісаў славутыя словы пра любоў да радзімы. Любоў да радзімы прывяла і Юдзіф у шацёр Алаферна — з намерам забіць таго, чыё войска павінна было паняволіць народ і край Юдзіфі. «...Гасподзь, / зважаючы на памысны / намер Юдзіфы, / памог ёй перамагчы / непераможнага між людзей» (пераклад Скарынавага тэксту — Алеся Разанава).

Сяргей Кавалёў, аднак, ідзе ўслед не толькі за патрыятычным пафасам Скарыны. Ён доўжыць свой германеўтычны праект: перачытвае класіку, каб актуалізаваць у ёй мноства новых сэнсаў. Адсечаная галава Алаферна і Юдзіф, наканаваны і наканаваная, мужчына і жанчына, каханы і каханая, у плыткім, бадай што бясконцым часе, на выспе бадай што замкнёнай прасторы — вось два полюсы дыялогу, які разгаліноўваецца ў рознаўзроўневы паліпалог, у той культурны кантэкст, які самастойна адкрывае для сябе кожны слухач на чытанні п'есы. Кантэкст будуць яшчэ адкрываць і адкрываць: на сцэне — рэжысёры і акцёры, у глядзельнай зале — гледачы і тэатральныя крытыкі...

Маладыя філолагі задалі драматургу пытанні, прапанавалі каментарыі да п'есы, пацікавіліся стасункамі Сяргея Кавалёва з рэжысёрам і акцёрамі, даведаліся пра цікавосткі багемнага жыцця, сакрэты рэжысёрскага чалавеказнаўства і рэцэпты драматургічнай кухні.

Прафесар Сяргей Кавалёў таксама прэзентаваў манаграфію «Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу», а прафесар Алесь Бельскі расказаў пра ўдзел у складанні праграм для школ па беларускай літаратуры, у якія ўведзены творы пісьменнікаў-сучаснікаў Алеся Наварыча, Андрэя Федарэнкі, Сяргея Кавалёва. У сустрэчы, арганізаванай кафедрай гісторыі беларускай літаратуры, узялі ўдзел таксама загадчыца кафедры, дацэнт Таццяна Казакова, аўтар гэтых радкоў і выкладчыца Ірына Часнок.

**Людміла СІНЬКОВА,**
**прафесар**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**3 мая** — *у літаратурны клуб «Сугучча» пры СШ № 77 на літаратурна-музычную імпрэзу з удзелам паэтаў. Пачатак у 12.30.*

**4 мая** — *на ўрок мужнасці «З намі памяць пра вайну», які правядзе пісьменнік Мікола Чарняўскі, у дзіцячую бібліятэку № 15. Пачатак у 13.30.*

**5 мая** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пачатак у 14.30.*

**6 мая** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 на конкурс чытальнікаў «Жывая класіка». Пачатак у 13.30.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**4 мая** — *на святочны канцэрт і ўзнагароджанне пераможцаў абласных літаратурных конкурсаў у Брэсцкую цэнтральную гарадскую дзіцячую бібліятэку. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**5 мая** — *на сустрэчу з пісьменніцай Таццянай Дземідовіч у СШ № 27. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**4 мая** — *на літаратурную сустрэчу «У караульне бярозы стаяць…» з полацкімі паэтамі Галінай Загурскай і Мікалаем Балдоўскім у СШ № 8 г. Полацка. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**28 красавіка** — *на сустрэчу з паэтэсай Ірынай Карнаухавай у дзіцячую бібліятэку № 10 г. Мінска. Пачатак у 13.00.*

**29 красавіка** — *на раённыя этапы рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў «Жывая класіка» з удзелам сяброў Мінскага абласнога аддзялення СПБ ва ўстановы адукацыі і культуры Мінскай вобласці. Пачатак у 11.00.*

**2 мая** — *на сустрэчу з паэтэсай Ірынай Карнаухавай у дзіцячую бібліятэку № 2 г. Мінска. Пачатак у 12.00.*

# МОЦАРТ СЛОВА

**У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча на мінулым тыдні адбылася імпрэза «Не наракаю на цябе, мой лёс». Прэзентаваная й аднайменная выстаўка. Герой падзеі — Рыгор Семашкевіч, чые «Выбраныя творы» сталіся 89-м томам кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор». Арганізатарам сустрэчы выступіў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.**

Лёс Рыгора Семашкевіча трагічна абарваўся ўлетку 1982 года, на трыццаць сёмым годзе жыцця, на ўздыме таленту. А талент вызначаўся шырынёй і шматграннасцю, як зазначыў літаратар Генрых Далідовіч. Вершы Семашкевіч пачаў пісаць яшчэ ў школе, а першая публікацыя адбылася ў 1962 годзе. Проза яго стала новым словам у беларускай літаратуры: неардынарная, цікавая, дасціпная. А эсэ і крытычныя артыкулы вызначаюцца глыбіннай, шчырай любоўю і павагай да чалавека, праніклівасцю, дакладнасцю і арыгінальнасцю. Цяпер яны лічацца хрэстаматыйнымі.

Рыгор Семашкевіч вызначыўся і як навуковец. Падчас вучобы на філфаку



*«Паэт Рыгор Семашкевіч», А. Глобус.*

ён абраў няпростую для абароны тэму «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу (канец XIX — пачатак XX стагоддзя)». Дыпломная работа перарасла ў кандыдацкую, а малады даследчык атрымаў званне дацэнта на філалагічным факультэце БДУ.

Сястра пісьменніка Таццяна Станевіч згадала дзіцячыя гады, праведзеныя пад дахам бацькоўскага дома, пра цеплыню стасункаў з братам. Ала Сямёнава, рэдактар першай і апошняй кніг паэта, зазначыла: «Ёсць аўтары, якім бясконца даеш, а ёсць тыя, ад якіх — атрымоўваеш. Рыгор Семашкевіч — менавіта з апошніх».

Казімір Камейша, студэнцкі сябра Семашкевіча, падкрэсліў гумар яго аповесці «Бацька ў калаўроце». Тут — уся яго біяграфія, а ў героях ёсць прататыпы (некаторыя, хто пазнаў сябе ў іх, дарэмна пакрыўдзіліся). Яшчэ адна ўніверсітэцкая сяброўка Вольга Дэконская распавяла пра сяброўства з Семашкевічам, заснаванае на навуковым інтарэсе і цікавасці да кніг і архіўных даследаванняў. Яна параўнала пісьменніка з Моцартам: так лёгка і віртуозна яму ўсё давалася, што чарнавой працы не бачна — толькі вынік.

Укладальніца пасмяротнага выдання і ўдава пісьменніка Наталля Семашкевіч паведаміла, што падчас падрыхтоўкі выдання сутыкнулася з праблемай: аб'ём не дазволіў уключыць у кнігу яшчэ не друкаваны дзённік творцы. Але, як зазначыў рэдактар «Кнігазбору» Кастусь Цвірка, праблема не з'яўляецца невырашальнай: дзённік Рыгора Семашкевіча варта выдаць асобна.

На выстаўцы ў фае музея экспанаваліся асабістыя рэчы пісьменніка, здымкі з сямейнага архіва, кнігі з дарчымі надпісамі.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# З любоўю да аўтэнтыкі

## Навошта латаць рарытэтнае адзенне прабабуль?

Альбом «Традыцыйны беларускі касцюм» прэзентаваны падчас XI Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання», якая ладзілася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Альбом, што дэманструе беларускае вясковае аддзенне XIX — XX стагоддзяў з улікам рэгіянальных адметнасцей, прадставілі старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Марыя Віннікава і малодшы навуковы супрацоўнік гэтай жа ўстановы Паліна Богдан. За прыгожымі фотаздымкамі альбома — цяжкая праца: старажытныя строі трапляюць да даследчыкаў не ў лепшым стане, таму з дапамогай зацікаўленых студэнтаў і выкладчыкаў адзенне даводзіцца рэстаўраваць: выводзіць плямы, рабіць латкі...

Няўлоўны бок працы этнографаў і фалькларыстаў паўстае ў выніках іх працы, за якой — захаваны народныя спевы і танцы, рэканструяванае сялянскае адзенне, узноўленыя святы, выступы фальклорных гуртоў…

— Першы форум па праблемах ахоўы нематэрыяльнай культуры і спадчыны прайшоў у 2007 годзе, — адзначыў прарэктар па навуковай рабоце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Віктар Языковіч. — Навуковай супольнасцю была сфарміравана праграма комплекснага вывучэння розных праяў і граней аўтэнтычнага фальклору, вызначэння шляхоў яго інтэграцыі ў адукацыйныя рэаліі сучаснасці. Кола ўдзельнікаў канферэнцыі за мінулыя гады значна пашырылася. Зараз форум складаецца не толькі з навуковых дакладаў, але і з вялікай практычнай праграмы.

Атрыманыя тэарэтычныя веды замацоўвалі на практыцы падчас майстар-класаў па рэканструкцыі беларускіх народных строяў, а таксама па захаванні і пераймանні фальклору на прыкладзе дзейнасці беларускіх і польскіх фальклорных гуртоў. У Музеі гісторыі музычнай і тэатральнай культуры прэзентавалі фотавыстаўку, прысвечаную падняпроўскаму абраду Ваджэнне і пахаванне Стралы (вёскі Стаўбун і Неглюбка Веткаўскага раёна). Узнаўленне валачобнага абраду «Велікодная стрілка» ладзілася ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо Мінскага раёна, госці імпрэзы ўзялі ўдзел у народных вясновых гульнях і танцах пад акампанемент вясковых выканаўцаў «Ліпачка» і «Папінскія музыкі», а таксама выканаўцаў-пераемнікаў фальклору «Талака», «Раме», «Страла», «Этнасуполка», «Агнявец» ды іншых.

Сёлета даклады на канферэнцыю, падрыхтаваную ў межах Года навукі, даслалі 96 даследчыкаў з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Італіі, Бельгіі ды Кітая. У навуковай частцы форуму ўзялі ўдзел 100 чалавек, з якіх шасцёра маюць ступень доктара навук і 22 — кандыдата навук.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ЛіМ-каляндар

**24 красавіка** — 125 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Сіманоўскага (1892 — 1967), беларускага бібліятэказнаўца, бібліёграфа, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры БССР.

**24 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Вярбіцкага (1937 — 2006), беларускага скульптара.

**24 красавіка** — 70 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Дзямешкі (1947 — 2006), беларускага артыста эстрады, выканаўцы на ўдарных інструментах, заслужанага артыста БССР.

**24 красавіка** 60 гадоў адсвяткавала Вольга Палікарпава, беларускі мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**25 красавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння Васіля Воінкава (1902 — 1986), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**25 красавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Шульмана (1912 — 1990), беларускага кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**25 красавіка** 80 гадоў таму была створана Беларуская дзяржаўная філармонія.

**27 красавіка** 50-гадовы юбілей адзначыла Алена Бараноўская, беларуская мастачка.

**28 красавіка** 80 гадоў спаўняецца Леаніду Чахоўскаму, беларускаму артысту балета, педагогу, заслужанаму артысту БССР.

**28 красавіка** 60 гадоў святкуе Ігар Мацюхоў, беларускі харавы дырыжор, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**29 красавіка** 70 гадоў адзначае Анатоль Кузняцоў, беларускі жывапісец.

**29 красавіка** 70-гадовы юбілей святкуе Юрый Фейгін, беларускі акцёр, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

**29 красавіка** 70 гадоў спаўняецца Анатолю Яскіну, беларускаму мастаку манументальнага, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, графіку.

**30 красавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Вітольда Грачынскага (1922 — 1993), беларускага і расійскага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**30 красавіка** 80 гадоў адзначае Сяргей Пятроў, беларускі празаік, паэт.

**100 гадоў** таму было заснавана Першае таварыства беларускай драмы і камедыі. Існавала да сярэдзіны 1920 г.

## Дайджэст

• Рукапісы Сымона Руса з Полацка, сына Францыска Скарыны, знойдзеныя ў чэшскім архіве. Так, супрацоўнікі архіва ў паўднёвачэшскім горадзе Індржыхуў Градзец на запыт беларускіх гісторыкаў знайшлі ў сваім сховішчы два рукапісныя дакументы, датаваныя 1584 і 1590 гадамі. Абодва дакументы ўласнаручна падпісаныя сынам Францішка Скарыны Сымонам Русам з Полацку. Раней было вядома, што гэтыя дакументы існуюць: пра іх згадвалася ў адной з публікацый 1929 года, але самі яны і іх тэкст у навуковы зварот не ўводзіліся. 10 красавіка гісторык Павел Котаў атрымаў з архіва копіі абодвух дакументаў. Размова ў іх ідзе пра дрэннае здароўе Сымона і што пан Адам з Градца меркаваў выправіць яго на курорт Добра Вода. Архіў горада Індржыхуў Градзец, які з'яўляецца філіялам Галоўнага абласнога архіва ў горадзе Ршэбань, даў дазвол на публікацыю абодвух дакументаў. Яны будуць уключаныя ў зборнік дакументаў пра жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны, абноўленае выданне якога цяпер рыхтуецца ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

• Вядомы твор Антуана дэ Сент-Экзюперы «Маленькі прынц» быў перакладзены трохсоты раз. Гэтая падзея прысвоіла казцы статус адной з самых перакладаных у свеце нароўні з Бібліяй і Каранам. Трохсотай мовай перакладу стала арабская гаворка хасанія, добра вядомая самому Экзюперы. У Маўрытаніі і Заходняй Сахары, дзе была распаўсюджаная хасанія, у 1921 і 1927 гадах бываў Экзюперы, таму пераклад знакавы: казка «Маленькі прынц» загучала на мове тых мясцін, якія натхнілі пісьменніка на стварэнне шэдэўра.

• Ватыканская апостальская бібліятэка ўжо шэсць гадоў вядзе актыўную працу па алічбаванні старажытных кніг і манускрыптаў, якія захоўваюцца ва ўласных фондах кнігасховішча. На сёння супрацоўнікі лабараторыі выканалі 10% рэалізацыі ўсяго праекта, што налічвае 9000 дакументаў. Па папярэдніх падліках, алічбаванне рукапісаў працягнецца на дзесяць — дваццаць гадоў, нават калі ў працэсе будуць штодзень задзейнічаныя 200 чалавек, і гэта без уліку валанцёраў. За гэты час да працы былі прыцягнутыя некалькі тысяч добраахвотных з розных краін, таксама была арганізаваная кампанія па зборы сродкаў фінансавання маштабнага праекта.

• Пад партрэтам князя Дамініка Радзівіла, які захоўваецца ў Наўгародскім дзяржаўным музеі-запаведніку, выявілі другі партрэт. Нечаканае адкрыццё стала вынікам амаль пяцігадовых даследаванняў, якія ладзіла старшы навуковы супрацоўнік ДМЗ, захавальнік фонду выяўленчага мастацтва Вікторыя Карпава. Партрэт невядомага мужчыны, які не меў аўтарства і дакладнай даты напісання, паступіў у музей у 1947 годзе. Паводле легенды, на партрэце намаляваны знакаміты магнат Дамінік Геранім Радзівіл (1786 — 1813), аднак навуковых пацвярджэнняў гіпотэзы не было. У выніку даследаванняў выявілася, што на палатне сапраўды намаляваны Радзівіл. Партрэт прайшоў рэнтгенаграфічнае даследаванне. Усяго было зроблена 12 вялікіх здымкаў. Дзякуючы ім навукоўцы высвецілі, што пад бачным воку партрэтам Радзівіла знаходзіцца яшчэ адзін. Кампазіцыя першапачатковага партрэта значна адрозніваецца ад таго, што бачаць гледачы цяпер: так, князь на замаляваным партрэце выяўлены ў плашчы і масонскім фартуху, а замест французскіх ордэнаў 1812 года на грудзях героя выявіўся масонскі сімвал «палымяная зорка» з так званым «ключом усяведання». На партрэце таксама намаляваныя калона і пакуль не зразумелы прадмет — меч або жазло. Для Вікторыі Карпавай відавочна, што змены ў партрэт былі ўнесеныя, каб схаваць масонскую сімволіку. Магчыма, гэта адбылося пасля таго, як імператар Аляксандр I выдаў указ аб забароне тайных арганізацый.

*Палачане*

# РЭДАКТАР



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Гісторыя роднага горада адкрывалася мне не з самага дзяцінства, бо ў той пасляваенны час пра гэта можна было прачытаць вельмі мала. Таму, перагортваючы падручнік для старэйшых класаў па гісторыі СССР і сустрэўшы некалькі радкоў пра родны горад, я адчуў небывалую гордасць і ўзрушэнне. Я стаў разумець, што вулкі, па якіх мы хадзілі штодня, памятаюць старадаўнія часы. Тады ж мы з маім аднакласнікам Валодзем Казловым вырашылі напісаць паэму пра Полацк. Напісалі і аднеслі гэтую паэмку ў рэдакцыю раённай газеты «Сцяг камунізму», дзе яе прачытаў мой будучы рэдактар (а тады ён быў адказным сакратаром) Іван Фёдаравіч Лемеш. Ён такі суровы быў дзядзька, паглядзеў, пачытаў і кажа: «Ну, гэта, канечне, яшчэ не паэма. Вы лепш пра свае школьныя справы нам напішыце!»

Так склалася, што сустрэліся мы зноў праз шмат гадоў абсалютна нечакана. Я тады пасля заканчэння адзінаццаці класаў, не прайшоўшы па конкурсе ў інстытут, працаваў транспарціроўшчыкам на заводзе шкловалакна. Крыху пісаў вершы на рускай мове, хадзіў з сябрамі на пасяджэнні пры літаб'яднанні «Наддзвінне». Аднойчы ў парк, дзе мы са свайго цэха былі пасланыя на працы па добраўпарадкаванні каля Кургана Бессмяротнасці, прыйшоў мой бацька і ўсхвалявана сказаў:

— Тут з рэдакцыі цябе шукалі. Прасілі зайсці да самога рэдактара. Гэта быў той самы дзядзька, я яго адразу пазнаў. Высокі, сівы, чырванатвары (гэта потым я даведаўся, што ён пакутуе на высокі ціск). Ён устаў з-за стала і ўважліва паглядзеў на мяне...

Назаўтра я прыляцеў да начальніка цэха, які спачатку не паверыў, што вось гэтага хударлявага і невысокага хлопца, звычайнага грузчыка, завуць працаваць у рэдакцыю газеты. Праз два дні я пераступіў парог карэктарскай полацкай газеты «Сцяг камунізму», але з першага дня рэдактар даваў мне заданні пісаць у газету.

Лемеша я пабойваўся: быў ён негаваркі, патрабавальны да кожнага, мог наладзіць разнос нават ветэранам, якія яго называлі на «ты». Спадабацца яму было няпроста. Лемеш не спяшаўся пераводзіць мяне, ужо студэнта-завочніка факультэта журналістыкі, у штат. Я нават ужо хацеў сыходзіць, але раптам ён выклікаў і сказаў, што прапануе перавесці мяне старшым літсупрацоўнікам, весці матэрыялы, звязаныя з культурай. Так, хоць афіцыйна такой пасады не было, я ўліўся ў калектыў творчых супрацоўнікаў, дзе разам з былымі воінамі і партызанамі працавалі ўжо будучыя пісьменнікі Іван Стадольнік і Герман Кірылаў.

Амаль дзесяць гадоў я працаваў пад кіраўніцтвам Івана Фёдаравіча. Быў ён чалавекам мудрым і прыстойным, не падлізваўся перад начальствам, не хітрыў, не подліча. У партызанскім атрадзе юнак Лемеш атрымаў раненне ў нагу. Аперацыю рабілі без наркозу. Партызанскі хірург як мог стараўся, але нагу захаваць не ўдалося. Так Лемеш стаў інвалідам з самага юнацтва. З пасляваенных гадоў ён прайшоў шлях ад радавога супрацоўніка газеты — спачатку да адказнага сакратара, а потым — да рэдактара. Яго сакратарскае мінулае мы ўзгадвалі нярэдка, бо рэдактар мог раптам перавярстаць увесь нумар, зняць і памяняць месцамі падрыхтаваныя матэрыялы.

Ён ніколі не дазваляў сабе нейкіх барскіх замашак, чым часам грашылі яго калегі, нават кватэру меў звычайную, на ўскраіне, а рэдакцыйная машына ездзіла толькі ў пошуку матэрыялаў з супрацоўнікамі, а не была рэдактарскім персанальным аўтамабілем.

Адна была слабасць і радасць у суровага Івана Фёдаравіча — рыбалка. Хто бываў з ім на возеры ці на рэчцы, бачылі не суровага кіраўніка, а па-юначы шчаслівага чалавека. Лемеш і пасля таго, як пайшоў на пенсію, перасяліўся ў вёску і амаль усе дні бавіў за любімым заняткам. У газеце засталася працаваць яго любімая дачушка Людміла.

Шкада, што мы не заўсёды паспяваем сказаць харошыя цёплыя словы тым, хто іх заслугоўвае. Як мой былы рэдактар палачанін Іван Фёдаравіч Лемеш.

# Народны паэт зразумелы на Смаленшчыне

## Пра Якуба Коласа распавядаюць на радзіме Аляксандра Твардоўскага

**Выданні твораў Якуба Коласа розных гадоў, рукапісы, фотаздымкі і перапіска беларускага паэта з Аляксандрам Твардоўскім, а таксама іншымі знакамітымі пісьменнікамі — экспанаты выстаўкі, што прадстаўляе Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа ў Смаленску.**

У Смаленскай універсальнай бібліятэцы імя А. Т. Твардоўскага (ён быў родам з гэтых мясцін) падчас выстаўкі «Якуб Колас і рускія пісьменнікі» можна зразумець, наколькі для літаратараў і наогул творцаў важныя сувязі з калегамі, прадстаўнікамі іншых культур, краін, традыцый. А Якуб Колас меў вялікае кола сяброў ці калег, з якімі падтрымліваў кантакты, у розных рэспубліках былога СССР. Асобны раздзел выстаўкі сведчыць пра цёплыя адносіны паміж беларускім народным паэтам і Аляксандрам Твардоўскім, творчасць якога была, па сутнасці, народнай, акрамя таго, ён знаёміў народ той былой краіны з літаратурай розных савецкіх рэспублік у часопісе «Новый мир», якім кіраваў. Але сяброўскія адносіны падтрымліваў беларускі паэт і з іншымі расійскімі літаратарамі, сярод якіх Сяргей Гарадзецкі (першы перакладчык на рускую мову паэмы «Новая зямля»), Сяргей Міхалкоў, Аляксандр Фадзееў, Канстанцін Сіманаў, Аляксей Новікаў-Прыбой ды іншыя.



*Экспазіцыя ў Смаленску.*

Сярод твораў беларускага Песняра ёсць вершы, прысвечаныя Расіі. Невыпадкова. Лёс звязаў Коласа з гэтай зямлёй у розныя перыяды жыцця. З 1917 па 1921 гады, калі на радзіме ішла вайна, прытулкам для сям'і Міцкевічаў стала Курская вобласць. Падчас Другой сусветнай вайны ён ехаў у эвакуацыю праз Падмаскоўе — Клязьму, дзе знаходзілася родавае гняздо жонкі Якуба Коласа Марыі Дзмітрыеўны (у дзявоцтве Каменскай).

Творы Якуба Коласа перакладалі на рускую мову акрамя Гарадніцкага яшчэ Марыя Камісарава, Мікалай Браўн, Барыс Ірынін, Пётр Сямынін, Яўгеній Мазалькоў, даносілі думкі паэта, але і распавядалі пра яго радзіму. Гэта ў нейкім сэнсе робіць і цяперашняя выстаўка.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ:

# «АБАЙ УВАЙШОЎ У МАЮ СВЯДОМАСЦЬ...»

## У Алма-Аце пабачыла свет кніга «Творчасць Абая Кунанбаева ў замежнай рэцэпцыі»

Прэзентацыя адбылася на круглым стале, прысвечаным беларуска-казахскім літаратурным сувязям. Удзел у сапраўдным свяце дружбы ўзялі казахскія літаратуразнаўцы, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Казахстане і беларускія госці міжнароднай кніжнай выстаўкі «Па Вялікім Шаўковым шляху», што ладзілася ў гэтыя дні ў Алма-Аце.

— Мы прыехалі ў Алма-Ату, каб распавесці сваім сябрам пра 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, пра ролю і месца першадрукара Францыска Скарыны ў фарміраванні асветніцтва, кніжнай культуры на ўсходнеславянскіх землях, — расказвае выканаўчы дырэктар Саюза выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку Кацярына Чарапок. — Сёлетні год у Беларусі праходзіць пад знакам асаблівай увагі да гістарычных традыцый кнігадрукавання. І вельмі прыемна было бачыць, што і казахі падрыхтаваліся да сустрэчы з намі, паказалі, якую канструктыўную супольную работу ладзяць пісьменнікі Казахстана і Беларусі, якімі аспектамі вылучаецца літаратурнае сяброўства нашых краін.

А што да кнігі пра Абая і асэнсаванне яго творчасці ў свеце, то беларускі раздзел прадстаўлены ў выданні даволі грунтоўна. З артыкулам «Абай Кунанбаеў і беларуская літаратура» выступае акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гніламёдаў. Шмат гадоў назад Уладзімір Васільевіч выступаў па гэтай тэме на навуковай канферэнцыі ў Алма-Аце. Цікавым падаецца асабістае ў тэксце сур'ёзнага вучонага, літаратара: «Абай увайшоў у маю свядомасць разам з раманам Мухтара Аўэзава "Шлях Абая". Добра помню глухія снежаньскія вечары ў роднай вёсцы, слабае святло газавай лямпы, якую я, вярнуўшыся са школы, падсоўваў бліжэй да кнігі, каб лепей разгледзець яе старонкі, шматколерны свет гэтага экзатычнага, як тады мне падавалася, твора, у якім ідзе яркі і выразны аповед пра казахскую зямлю, яе людзей і норавы і пра гэтага светлага і разумнага чалавека…».

У зборніку «Творчасць Абая Кунанбаева…» змешчаны і артыкулы Міколы Мятліцкага «Палюбіўшы паэта, палюбіш і яго народ» і «Светач народнага духу». Таксама — невыпадковы зварот да творчасці класіка казахскай літаратуры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі з'яўляецца перакладчыкам кнігі Абая «Стэпавы прастор» на беларускую мову. Выдадзены ў 2010 годзе, гэты зборнік займеў шырокі розгалас і ў Беларусі. Былі рэцэнзіі ў друку, гучалі цёплыя словы на прэзентацыі кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Сярод аўтараў беларускага раздзела зборніка «Творчасць Абая ў замежнай рэцэпцыі» — і журналіст Алесь Карлюкевіч. Яго расповеды — пра пераклады казахскага класіка ў Беларусі, пра яго кнігі ў бібліятэках нашай краіны.

Сярод аўтараў кнігі ў другіх раздзелах выступаюць Святлана Ананьева, Айнур Калiскарава, Айнур Машакава (Казахстан), Абдула Рустамаў, Насір Фазілаў, Калдыбек Сейданаў (Узбекістан), Казбек Султанаў, Ларыса Агішава, Міхаіл Зянкевіч (Расія), Іван Курас (Украіна), Гаа Ман, Жакып Мырзахан, Ха Хуаньчжан, Су Чжок Сюнь (Кітай), Кім Бён Хак, Кім Чан Гын, Джо Гю Ік (Карэя), Расул Ісламі, Алі Акбар Велаяці (Іран), Ірма Рацiяні (Грузія), Фіруза Агаева (Азербайджан) ды інш.

Кніга пра ўспрыманне творчасці легендарнага Абая падштурхоўвае да шэрагу думак пра прачытанне беларускай літаратурнай класікі ў свеце. Міжнародны розгалас зробленага нашымі пісьменнікамі ў свеце дастаткова шырокі. На розныя мовы ў XX стагоддзі былі перакладзены творы Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Алеся Адамовіча, класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа, Янкі Купалы. Толькі ў Кітаі ў розныя дзесяцігоддзі выйшлі кнігі Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Якуба Коласа, Максіма Танка, Янкі Купалы, Янкі Маўра, Аркадзя Куляшова, Кандрата Крапівы. Цяпер выходзяць творы лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч. Відавочна, наспеў час прааналізаваць гэтыя працэсы, паразважаць пра прысутнасць беларускага слова ў свеце. Чаму б і нам у Беларусі не выдаць манаграфічнага характару даследаванне «Творчасць Васіля Быкава ў свеце»? Альбо чаму б не разгледзець тэму «Янка Купала і Якуб Колас у перакладах на мовы народаў свету»? Гэта ўжо патрэбна хаця б таму, каб выбудаваць дарожную літаратурную і мастацкую карту Беларусі, засведчыць, праз што, праз якія вобразы і сімвалы мы маглі б данесці свету, розным народам наш менталітэт, нашы беларускія перакананні і памкненні.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# НОЧ МАСЛІТУ,

## або *Middle*-літаратура *high*-класа




**Колішнія спрэчкі практыкаў (літаратараў) наконт магчымасці беларускага масліту за апошнюю чвэрць стагоддзя паступова трансфармаваліся ў абмеркаванне прынцыповай тэарэтычнай *не*-магчымасці гэтага феномена.**

Падобныя штудыі заварожваюць сваёй (амаль) бездакорнай непрагматычнасцю. Але толькі па першым часе яны падаюцца пазбаўленымі практычнай значнасці. Бо пакуль шукаеш «мексіканскага тушкана» (апетага савецкімі класікамі ў адным добра мэбляваным крэсламі рамане), можаш раптоўна натрапіць на больш каштоўнае «футра». Усё залежыць ад якасці планавання «выпадковасцей».

Вось, напрыклад, у самы пік маіх блуканняў па эспланадзе тэмы «Беларуская масавая літаратура як феномен элітарнай адсутнасці» лімаўскі аддзел крытыкі ў асобе Жаны Капусты нязмушана арганізаваў сустрэчу тэарэтычных штудый з кнігай Валерыя Гапеева «Ноч цмока». Выдадзены ў 2016 годзе ў выдавецтве «Галіяфы» раман ужо ў анатацыі атэстуецца як «эратычна-містычны дэтэктыў на тле беларускай правінцыі найноўшага часу». То бок мяне, чытача, шчыра папярэдзілі: усё будзе. І жанравы мікс як мінімум з трох складнікаў плюс верагодныя дэкарацыі «рамана нораваў», і пачуццёвасць (як мінімум), і жахлівыя жахі (як максімум), і… (у кожным выпадку «ліст чакання» абумоўліваецца чытацкімі далягладамі).

Адзін з самых аўтарытэтных на постсавецкай прасторы даследчыкаў феномена масавай літаратуры Марыя Чарняк звяртае ўвагу на прынцыповую важнасць разумення градацый у межах трыяды «класіка — белетрыстыка — масавая літаратура». Што да «класікі», то гэта статус, як правіла, перспектыўны ў дачыненні да жывых удзельнікаў літаратурнага працэсу. Калі анатацыя да кнігі В. Гапеева і падміргвае чытачу (даволі гулліва, трэба прызнаць) нібыта з абяцаннямі падараваць «ноч масліту», то зманлівасць гэтых абяцанняў становіцца відавочнай літаральна з першых старонак. Таму дазволім сабе без збыткоўных аргументацый адразу зрабіць крок убок ад «мексіканскага тушкана» (= масліту).

М. Чарняк разглядае «белетрыстыку» як «сярэдзіннае поле» літаратуры: «гэтыя творы апелююць да вечных каштоўнасцей, імкнуцца да займальнасці і пазнавальнасці»; «прыкметай белетрыстычнага тэксту становіцца падрыхтоўка новых ідэй у межах “усярэдненай свядомасці”; у белетрыстыцы сцвярджаюцца новыя спосабы выяўлення, якія непазбежна тыражуюцца; індывідуальныя прыкметы літаратурнага твора ператвараюцца ў прыкметы жанравыя». Пры гэтым белетрыстыка, як правіла, выклікае «жывы чытацкі інтарэс сучаснікаў дзякуючы водгуку на найважнейшыя павевы сучаснасці ці звароту да гістарычнага мінулага, аўтабіяграфічнай ці мемуарнай інтанацыі» («Масавая літаратура ХХ стагоддзя»).

У сваю чаргу, вядомы расійскі даследчык Сяргей Чупрынін прапанаваў чатырохузроўневую іерархію найноўшай літаратуры, дзе побач з высокай, актуальнай (арыентаванай на эксперымент) і масавай літаратурай вылучае так званую «мідл-літаратуру», што знаходзіцца як бы паміж сур'ёзнай і забаўляльнай: гэты тып мастацкай славеснасці паўстае ў выніку дынамічнага ўзаемадзеяння элітарнага і масавага і як бы нівелюе іх апазіцыйнасць.

Раман В. Гапеева «Ноч цмока» можа прэтэндаваць на статус узорнага твора беларускай «мідл-літаратуры» (ці айчыннай белетрыстыкі, калі гэта паняцце камусьці падасца больш прыдатным ці… менш раздражняльным).

Усе абавязковыя кампаненты якаснай белетрыстыкі шчасліва сустракаюцца ўжо ў самых першых раздзелах кнігі. Маем на ўвазе найперш:

— займальны сюжэт з вельмі дарэчнымі адгалінаваннямі, устаўнымі аповедамі (рэтардацыйнага кшталту паводле функцый і навелістычнага тыпу паводле тэхнікі выканання);

— мову рамана, якая дакладна патрапляе ў далёка не сярэднія стандарты *middle*-літаратуры: гэта, з аднаго боку, лёгкае, натуральнае маўленне, прычым без прысмаку той «папсовасці», якая беспамылкова ўгадваецца ў «чытве»; з другога боку, гэта мова прыдатная для стварэння аб'ёмных вобразаў;

— пераканаўчыя (у сэнсе мастацкай псіхалагізацыі) вобразы-характары пазнавальныя і індывідуалізаваныя адначасова.

Напачатку падаецца, што галоўная сюжэтная інтрыга будзе разгортвацца ў духу звыклага крымінальнага дэтэктыва:



*Змей Гарыныч у беларускім лесе.*

следчы Васіль Шайбак (ён жа «паляўнічы на цмока»), ад імя якога ведзецца аповед, павінен высветліць, хто і навошта/за што забіў маладую жанчыну Насцю Грыцук, якая працавала санітаркай у хірургічным аддзяленні раённай бальніцы. Але аўтар па меры развіцця дзеяння нанізвае на асноўную калізію своеасаблівыя знакі-ўказанні, што проста крыміналам справа не абыйдзецца (згадаем хоць бы фразу з электроннай перапіскі ахвяры, якая па-сапраўднаму ўзрушыла следчага: «Я павінна нарадзіць цмока…»).

Устаўныя навелы ў рамане розныя па аб'ёме: ад трох-чатырох радкоў (эпізод з бамжыхай, што загінула ў пажары), кароткіх міні-навел (гісторыя кахання ўчастковага Тумара) да сапраўднага «аповеду ў аповедзе», як у выпадку з Надзеяй, з якой я-героя звязваюць блізкія адносіны. Але ўсіх іх яднае функцыянальнае падабенства і наратыўная тэхніка: яны надаюць дадатковы аб'ём персанажу праз аповед пра яго лёс, дакладней, пра лёсавызначальныя моманты, што закліканы «падсвяціць асобу» героя і як бы абгрунтаваць яго ўчынкі ці нават падзеі, у якія ён аказваецца ўкручаны. Пачынаецца ўсё, як правіла, са своеасаблівага «зваротнага руху», калі дзея збочвае з асноўнай сюжэтнай лініі ў так званае «асобаснае мінулае». Спецыфіку часапрасторы рамана В. Гапеева «Ноч цмока» візуальна можна вельмі ўмоўна прадставіць у выглядзе кругоў, што адначасова ўпісаныя адзін у адзін — і заглыблены ў мінулы час, у асабістыя гісторыі герояў. Так, я-герой Васіль згадвае мінулае, не такое ўжо даўняе знаёмства з Надзеяй, якая ў гэтых яго ўспамінах згадвае пра сваё мінулае, пра сваё няўдалае сямейнае жыццё.

Адмысловым чынам перадаецца не толькі тэмпарытм, але і ўнутраны змест правінцыяльнага жыцця: яны набываюць лаканічнае, але надзвычай дакладнае выяўленне з дапамогай вобразаў «формульнага» кшталту:

«Гэты вартавы і тое, што я іду па правай частцы дарогі да пракуратуры, адно і пераконваюць: прайшло больш за дванаццаць гадзін. І хоць цяпер гэтак жа хмурна і шэра, як было надвячоркам, гэтак жа бязлюдна і мярцвяна ціха, учарашні вартавы на вышцы быў не сонным, а я ішоў у другім напрамку. Значыць, цяпер не ўчора, а сёння…»; «Непазбежнасць смерці вёскі крыецца ў буянні зелені» і інш.

Упэўныя моманты раманны аповед набывае выразныя адзнакі своеасаблівай «мужчынскай меладрамы», але меладрамы адмысловай, што па мастацка-стылявых адметнасцях вымыкаецца за межы «мідл-літаратуры». Так, вельмі выразна гэтыя жанравыя прыкметы выяўляюцца ў інтымных сцэнах, дзе будаўнічым матэрыялам пачуццёвасці становіцца мастацкаяпсіхалагізацыяўчынкаў і паводзін герояў.

Дзеля апісання сцэны інтымнай блізкасці паміж Васілём і Надзеяй В. Гапееў скарыстоўвае не «цыцкі» і «сцёгны» (якія паспеў не толькі заўважыць, але і ацаніць я-герой), а цнатлівую (з філасофска-псіхалагічным «цюнінгам») разгорнутую метафару: «Мы быццам ішлі разам праз лес пакручастай сцежкай, якая вяла ў лес досыць строма, віхляла між старых дрэваў, нырцавала ў густы зараснік, спускалася ў балотца, караскалася на выспу жоўтага пяску з чэзлым сасоннікам; ішлі, даверліва трымаючыся за рукі, і нам абаім важна было не проста дайсці да роўнай паверхні, а дайсці з тым сяброўскім даверам і чалавечай павагай, з якімі мы рушылі ў дарогу».

Белетрыстыка па-беларуску — гэта *беларушчына*цэнтраваная белетрыстыка, што вызначае, з аднаго боку, яе арыентаванасць на мастацкую міфалагізацыю нацыятворчай праблематыкі, а з другога боку, яе выразную асветніцкую (гісторыка-культурную) скіраванасць. Беларускі Міф перажываецца многімі героямі рамана В. Гапеева як сапраўдная Гісторыя; у сваю чаргу, сакральныя, архаічныя, містычныя вераванні і з'явы становяцца вытокам дэтэктыўнага сюжэта, нядзіўна, што следству ў дапамогу рэкрутаваны багаты этнаграфічны, фальклорны, гістарычны матэрыял. Бадай, кожны аўтар вышуквае свайго праваднiка ў таямнічы і амаль заўсёды пакутны свет беларушчыны. «Ноч цмока» мае свайго «брамніка», з функцыямі ахоўнымі і знішчальнымі адначасова. Гэта ўласна Цмок як увасабленне «старажытнай веры нашых продкаў, якая была вынішчана хрысціянствам», Цмок як «незалежная, вольная істота». Цмок, па сутнасці, змяшчаецца аўтарам у цэнтр сваёй уласнай Дзяржавы, дзе людзі надзяляюцца функцыямі і ўласцівасцямі міфалагічных істот (не так ужо і сімвалічна «прыпадабняюцца» хто да чорнага пеўня, хто да Яшчура), дзе здольнасць адчуваць адказнасць за лёс беларушчыны становіцца знакам абранасці.

У кожнага з герояў рамана В. Гапеева (у Надзеі і яе брата Сяргея, у гісторыка Алеся Федарука і паэта-журналіста Андрэя Дылько і інш.) — свая гісторыя пакут за веру ў беларушчыну як штосьці пракаветнае, неадменнае. Пры гэтым займальнае, містычнае, меладраматычнае і асветніцка-каштоўнаснае аказваюцца часам настолькі цесна сплеценыя, што прыходзіць разуменне: найкарацейшы шлях да *сэнсу* пралягае для герояў В. Гапеева праз чуллівасць, эмацыянальнасць.

Вельмі цікава ў рамане «Ноч цмока» ўвасоблены архетып Дома. Уласнае (менавіта ўласнае, не арандаванае) жытло мае для я-героя такі ж сакральны змест, які мела свая зямля для герояў Коласавага паэтычнага эпасу. Уласны дом для галоўнага героя — умова спраўджвання чалавека як асобы і як гаспадара ўласнага лёсу, нават уласнага імені. Паказальныя ў гэтым сэнсе згадкі героя пра звычаі ў яго роднай вёсцы даваць мянушкі: «Надзька была Пецькавай, бо прыйшла жыць да Пецькі, у пабудаваны ім дом. А Васіль быў Таньчыным, як і Шурка — Тамарыным, бо яны прыйшлі жыць у дамы сваіх жонак. <…> Не сталі яны гаспадарамі ў вачах вяскоўцаў, не іхнімі сталіся жонкі, а яны — жончынымі мужамі».

Беспрытульнасць прымаецца героямі В. Гапеева за вырак, прытулак тут можа быць толькі адзін — каханне. Яно ў рамане становіцца месцам і ўмовай жыцця. Так, адзін з герояў (участковы Тумар) параўноўвае сваё пачуццё да каханай жанчыны з прагай хлеба, пра які ён марыў, калі ў маладосці мусіў галадаць колькі дзён, застаўшыся без грошай: «…хлеб быў пастаянна ў маёй галаве, ва ўсім! Я чуў яго пах. Адчуваў смак, пальцамі мацаў шурпаты бачок… Не, не трызніў, а вось… са мной той хлеб, са мной неадступна! Дык вось цяпер згадаў я той хлеб — мне ім Верачка стала. Не думаю я пра яе — яна проста са мной і са мной».

Бліжэй да развязкі рамана В. Гапеева «гурт» жанраў наогул ператвараецца ў невялікі «аркестр», паколькі ў палілог розных кампанентаў уключаюцца сацыяльна-філасофскія нарацыі, публіцыстычныя прыёмы, якія, зрэшты, у самым фінале мудра (як для белетрыстычнага твора) адступаюць перад чуллівасцю меладраматычнага кшталту:

«— Калі якія дзеці і атрымліваюцца ў такой навальнічнай жарсці, дык хіба цмокі, — усміхнулася яна скрозь слёзы, шмыгнула носам. — Даруй, — выцерла свой твар адной далонню. — Ніколі не думала, што буду калі-небудзь плакаць ад шчасця».

Зрэшты, раман мае фінал сентыментальны паводле інтанавання — і надзвычай функцыянальны паводле перспектыў жыццяздольнасці ў сучасным медыяарыентаваным дыскурсе. Аўтар пакідае чытача ў пэўнай разгубленасці перад інтрыгай нібыта і разблытанай, але неяк спецыфічна (наўмысна?) *не(да)прагаворанай*. Там, дзе раман «Ноч цмока» заканчваецца, проста не мае права не пачацца фільм, серыял ці квест (ці ўсё разам). Прычым з павагі да літаратурнай першаасновы медыяпрацягі проста павінны стацца класікай *middle*-мастацтва (ды не абы-якога, а *high*-класа).

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**



# Паэтычны ружанец:

## нататкі пра кнігу выбраных твораў Дануты Бічэль

Ёсць у беларускай культуры знакавыя асобы, якія сталі ўвасабленнем нацыянальнага характару, нацыянальнае мовы. І гэтая знакавасць належыць ім па праве іх таленту, бязмежнай любові да чалавека, да роднае зямлі, да духоўных каштоўнасцяў народа. Такою асобаю была і застаецца Данута Бічэль. Заўсёды чаканаю была і застаецца сустрэча з творчасцю паэткі. Яе паэзія вабіла і чаравала не адно пакаленне беларусаў. Да гэтай паэзіі было чуйнае не адно філалагічнае пакаленне, яе паэзія не пакідала абыякавым паэтычнае кола яе равеснікаў, ды таленавітых маладых, што твораць у прасторы роднага Слова.

Кніга выбраных твораў паэткі з'явілася ў серыі «Беларускі кнігазбор», распрацаванай у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У гэтай серыі выдадзена ўжо больш за восемдзесят тамоў выбраных твораў выдатных творцаў беларускай літаратуры. Кніга твораў Дануты Бічэль папоўніла гэты залаты фонд, які добра было б мець у сваёй бібліятэцы кожнаму беларусу, кожнаму, хто ў сучасным шматмоўі сусветнай літаратуры хоча далучыцца да самабытнай паэзіі ў беларускім слове.

### ЗНАКІ-ВОБРАЗЫ БЕЛАРУСІ

Кнігу выбраных твораў складала сама паэтка. Вядома, няпроста рабіць выбар-адбор твораў для такога выдання самому аўтару, калі наноў перачытваецца-перадумваецца напісанае за многія гады творчага жыцця. Гэтае выданне адметнае тым, што ўпершыню ў адной кнізе спалучылася паэзія і проза Дануты Бічэль, паэзія і проза непаўторнай, самабытнай асобы, паэткі, якая яднае розныя пакаленні, стагоддзі, мінулае і сучаснае, паэткі, якая яднае нас у адвечным Храме Роднага Слова.

Яе вершы — гэта і лёгкія, празрыстыя акварэльныя малюнкі, якія зачароўваюць непаўторнай музыкай, ладам, а таксама і вабяўнаю красою блізкіх сэрцу вобразаў, і лірызмам, светласцю адкрыцця радзімы. Яны гучаць як своеасаблівыя знакі-вобразы Беларусі, як голас любові-вернасці ёй. І, як ні дзіўна, з першых старонак кнігі складваецца ўражанне, што вершы, прамоўленыя Данутай Бічэль, не маюць узросту, як не мае ўзросту і іх чытач: можна чытаць і дарасламу, з няпростым досведам радасцяў і болю, яны адгукнуцца і ў душы закаханых, падтрымаюць у часіны горычы і разладу душы, зачаруюць і маленькага слухача-чытача... І кожная душа, што ўзрастае, можа знайсці водгук і суцяшэнне ў паэтычным асэнсаванні непазбежнага расчаравання юнацкай рамантычнай душы на шляху сталення. Паратункам будзе родная зямля, краса яе, што дасць сілу змучанаму і расчараванаму. Верш «Верас» са зборы «Водар і шолах» — філасофскае асэнсаванне вечных праблем, праблем асобы, індывідуальнасці чалавека ў грамадстве. Падтрымка і жыццядайная сіла — гаючая краса і сіла Радзімы:

*Хоць ты ведаеш — можна схавацца*
*ад самой сябе ў верас,*
*можна сэрца пакінуць на верасе*
*і знайсці там яшчэ раз.*
*І завесці ад верасу сонца*
*і душы сваёй струны.*
*Можна ў верас вяртацца бясконца —*
*ён надзейны і ўдумны.*

У падарожжы з паэткай спазнае чытач слаўную і балючую гісторыю сваёй зямлі, бо ажывуць у паэтычным асэнсаванні і памятныя мясціны роднай Беларусі, яе коды-знакі, у якіх — старажытнасць і сучаснасць. Нёман, Каложа, Марачоўшчына, Свіцязь, муры Наваградка, Лідскі замак, Гальшаны, Дняпро, Крычаў, Вільня, Вострая Брама, Гародня, Баторава горка, Жупраны, Кушляны, Слонім, Зэльва, Белавежская пушча... Рэкі і рэчкі Беларусі, якія яднае Дняпро і Нёман, — жывая вада, сіла духоўная, што не дасць змялець духу народа. У творчасці Дануты Бічэль — мара пра гарманічную і вольную краіну Беларусь, дзе шануецца створанае продкамі, дзе нацыянальная культура ёсць здабыткам душы беларуса, годнага і духоўна багатага.

### СУСВЕТ РОДНАЙ МОВЫ

Слова Дануты Бічэль — гэта лекі для душы ад бяспамяцтва, ад бязмоўя. Яна разам з няскоранымі, разам з тымі, хто і ў каханым бачыць вернага, высакароднага абаронцу і заступніка: «*Дазваляю быць са мной нясмелым, / а з Радзімай — смелым да адчаю*»; «*Будзь шляхотны, як Максім Гарэцкі*». Яна з тымі, хто ў розныя цяжкія для Радзімы часы цвердзіў і словам і чынам годнасць, ахвярнасць, волю і незалежнасць: «*Край мой — світанне, / шлях твой агністы і млечны... / Ты на калені не ўстанеш — / мудры і вечны*»...

Героі яе твораў — сейбіты і кавалі, ткаллі і мастакі, разьбяры і дойліды... Усе яны творцы. Яны будуюць Краіну-Беларусь, дзе гаспадарыць вольны народ, таленавіты, няскораны, ён мае сваю душу, бо столькі іх, таленавітых — маладых і сталых — паклалі сваё жыццё на алтар Беларусі: «*Беларусь — гэта хата, пабудаваная майстрамі-самавукамі на чыстым месцы, яна мае несмяротную душу і жывое дыханне*». Роздум пра здабыткі і страты роду беларускага, нацыянальнай гісторыі і культуры — характэрная рыса паэтычнай творчасці Дануты Бічэль. Трагічныя падзеі ХІХ, ХХ стагоддзяў адгукаюцца ў душы паэткі і вылiваюцца ў вершы-роздумы, вершы-малюнкі пра мясціны, звязаныя з гісторыяй змагання за волю свайго краю, пра людзей, што здабывалі роднай Беларусі волю, годнасць, незалежнасць. Многія творы паэткі насычаны публіцыстычнымі інтанацыямі, аднак усё ж застаюцца лірычнымі, высокамастацкімі.

Вершы Д. Бічэль маюць назвы, якія чытач успрымае як знакі-сімвалы да разгадкі таямніцы сэнсу твора. Назвы гэтыя зразумелыя, ды ў кантэксце верша набываюць мноства новых граняў значэння і сімвалічнага напаўнення. Шмат якія вершы патрабуюць і адпаведных фонавых ведаў пра падзеі і людзей, каб зразумець і адкрыць тэкст, і падтэкст. У прозе і паэзіі Данута Бічэль малюе мастацкім словам тых, далёкіх і блізкіх, родных, дарагіх творцаў Краіны Беларусі, тых, хто добра вядомы ў гісторыі, і тых, сціплых і таленавітых, з кім даў Бог ёй сустрэцца на жыццёвай дарозе: паэтаў, мастакоў, філосафаў з беларускіх мястэчак і вёсак, самавукаў-самародкаў, якія выявілі кожны ў свой спосаб і меру таленту душу чалавека з яе болямі і радасцямі, з верай у чалавечнасць, красу, у вольную будучыню сваёй краіны і вольнае дыханне роднае мовы. Адзін пералік імёнаў зойме шмат месца, прыгадаем хоць некаторыя: Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Францішак Багушэвіч, Цётка, Максім Багдановіч, Янка Купала, Ядвігін Ш., Зоська Верас, Гальяш Леўчык, Анатоль Іверс, Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш, Аляксей Карпюк, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Наталля Арсеннева, Ніна Мацяш, Іван Сяргейчык, Рудольф Пастухоў... У паэзіі, прозе Дануты Бічэль — падзяка тым творцам і творам, што дапамагалі ўзрастанню і мацаванню душы ў неспрыяльныя, трагічныя часы беларускай гісторыі. Так, пра песню Канстынцыі Буйла «Люблю наш край, старонку гэту» паэтка напіша: «*Песня "Люблю" была нам калыханкай і малітвай тады, калі чужынцы выгналі Бога з нашых святыняў, вывезлі ў ГУЛАГ святароў, а святыні ператварылі ў склады ўгнаеннях*...».

Прыгадаем яе словы пра Янку Купалу: «*Ён даў голас нямым, напоўніў болем і слязьмі песні, якія даляцелі з пекла да Неба. Паўстаў як Прарок, і Пясняр гімнаў, геній духу і мовы, найглыбейшы, найгалоўнейшы, найроднейшы, просты, як прырода, касмічны, як сусвет, бяздонны, досвітковы, купальскі*». Гэтыя словы можна аднесці і да самой паэткі, бо ёсць у яе творчасці тая высокая рамантычная плынь, той балесны і мужны голас скрыпкі, той непаўторны Сусвет Роднае Мовы...



Данута Бічэль і Васіль Быкаў. 1966 год.

### ЗАПРАШЭННЕ ДА МАЛІТВЫ

У беларускай літаратуры духоўная паэзія Дануты Бічэль была і застаецца сёння новым і поўнасцю яшчэ не прачытаным пластом паэзіі. Яе творчасць як бы пашырыла свае рамкі — зрабілася больш вольнай і раскаванай, парушыла межы часу, формаў і рытмаў. З'явіліся вершы-плачы, вершы-малітвы, вершы-медытацыі. Яны ўражваюць, здзіўляюць, не адпускаюць, бо быццам трапляеш у чароўную прастору, дзе разам з паэткай складаеш на мяжы явы і сну сваё маленне Усявышняму... Гэта няпростае чытанне. Гэта своеасаблівае запрашэнне да супольнай малітвы, сумеснага далучэння да таямніцаў Сусвету, да спазнання хрысціянскае навукі жыцця. Гэта запрашэнне ў пілігрымку да святыняў, у санктуарыі Маці Божай: ад маці Божай з Каложы — да Маці Божай з Гвадэлупы, да Маці Божай на Гаваях... Яна стварыла свой паэтычны Ружанец, дала сваё паэтычна-ўзнёслае вытлумачэнне і тым самым адкрыла такім зразумелым родным словам таямніцы даверлівай гаворкі з Богам, з Маці Божай... Паэтка дорыць беларусам паэтычны ланцужок Ружанца, каб навучыліся яго трымацца...

Для паўнавартаснага ўспрымання духоўнай паэзіі Дануты Бічэль неабходна і пэўная дасведчанасць — тут шмат рэлігійнай тэрміналогіі, фактаў, падзей, звязаных з хрысціянствам. А з другога боку, сама паэтка імкнецца наблізіць да кожнага дарослага і маленькага чытача інфармацыю пра нябесных нашых заступнікаў — Пана Бога і Маці Божую.

Паэтычнае асэнсаванне малітвы «Ойча наш» — гэта малітва ў малітве. Данута Бічэль так разгорнута, так адметна патлумачыла ўзнёслым сваім словам філасофскую мудрасць гэтай малітвы. Так паэтка ўводзіць у Храм Любові і Спагады, так адкрывае малітоўнае слова свае душы, так ахінае ўсіх, хто быў, ёсць і будзе ў гэтай да канца не спазнанай прасторы Свету. Паэтка-хрысціянка, яна яднае сваёй дзеяй, чынам і словам раз'яднаных. Яе малітвы яднаюць вернікаў у Храме Любові і Міласэрнасці.

Важнай часткай творчасці Дануты Бічэль з'яўляюцца пераклады з польскай мовы твораў Караля Вайтылы, Яна Твардоўскага, а таксама пераклады твораў святога Францішка з Асізі, Анкі Кавальскай, ксяндза Міраслава Качмарэка, іншых аўтараў духоўнай паэзіі. Гэтыя пераклады — выяўленне і свайго погляду на таямніцы белы свет, і далучэнне вернікаў да філасофскіх здабыткаў іншых творцаў.

Творчасць Дануты Бічэль ёсць падтрымкай, суцяшэннем для кожнае душы, якая шукае адказу на вечныя пытанні, якая шукае выйсця з разладу да гармоніі. Шлях да Святла. Яна праўдзе і вясковымі сцяжынкамі, дасць пачуць журлівую песню вясковую, услухацца ў музыку прыроды, адчуць водар і шолах гаючых траў роднае зямлі, удыхнуць іх сілу, сплесці разам з паэткай вяночак Маці Божай, каб быць моцнымі і мужнымі, дужымі і чуйнымі, каб сагрэць, абняць разам з чароўным Словам паэткі ўсю Беларусь, каб паўтарыць разам з ёю:

*Іду праз бяду на Твой голас,*
*Іду праз нястачу і холад.*
*Іду праз пакуты знямення.*
*Выносіць без вёсел цячэнне*
*ў прастору, дзе слова праўдзіва,*
*дзе слова і тарча, і дзіда.*

Для паэткі, якая стала лаўрэаткай Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы ў 1984 годзе, сёння найдаражэйшай узнагародай з'яўляецца сціплы юбілейны медаль Ларысы Геніюш, атрыманы на 100-я ўгодкі ў Зэльве, а таксама той маленечкі кавалачак кінаплёнкі з фільма «Няскораная», дзе яна побач з Ларысай Геніюш, якая працягвае паэтцы Данучэ, дарагой сваёй Данусі, руку. Гэта сімвалічна — як яднанне двух стагоддзяў, двух блізкіх духоўна натур, паэтак-сімвалаў беларускасці, беларускага слова.

Бог даў паэтцы такі непаўторны голас, каб аберагчы ад знямення-засухі свой край, Беларусь: «*Са слова пачынаецца Беларусь. Мова высыхае паволі, і ўсё роўна яна застаецца ў старыцах, не можа высахнуць зусім. Паэт — носьбіт слова, а слова — гэта ідэя, гэта малітва, гэта дарога, святло і праўда*».

Гэты голас, аднойчы пачуўшы, нельга забыць, нельга зблытаць з нейкім іншым. Кніга выбраных твораў Дануты Бічэль — жывое Слова, гучыць у ім усёпераможнае, жыццесцвярджальнае насуперак усім перашкодам-злыбедам высокае і чыстае слова Веры. І ў гэтым магутным і паратоўным Слове Паэткі жыве Беларусь.

**Марыя НОВІК,**
**кандыдат філалагічных навук**

**Фота з асабістага архіва Дануты Бічэль**

# «Палякам пашанцавала — іх перакладаюць больш за астатніх…»

Алесь Емяльянаў-Шыловіч — з кагорты маладых беларускіх паэтаў-перакладчыкаў, які праяўляе асаблівую ўвагу да перастварэння польскай паэзіі. Аглядаючы зробленае ім, неспадзявана ўспамінаеш перакладчыцкую цікавасць да паэзіі суседзяў з боку такіх майстроў мастацкага слова, як Максім Танк, Алег Лойка. Нядаўна Алесь падрыхтаваў і выдаў беларускую кнігу паэткі пачатку другой паловы ХХ стагоддзя Галіны Пасвятоўскай «Ідалапаклонніца». Гэта і падштурхнула да размовы з перакладчыкам.



**— Галіна Пасвятоўска — яркая польская паэтка другой паловы дваццатага стагоддзя. Але за смугою часін такія зоркі часам губляюцца. Як вы здолелі разгледзець такі паэтычны Космас?**

— З вершамі Галіны Пасвятоўскай я пазнаёміўся дзякуючы польскаму сайту *wywrota.pl*, дзе абсалютна выпадкова натрапіў на незнаёмае прозвішча. Спачатку палез у Вікіпедыю шукаць якіх звестак пра невядомую аўтарку. Даведаўшыся пра яе трагічны лёс, пачаў вывучаць творчасць паэткі. Глыбока інтымныя, шчырыя верлібры польскай Сапфо, як яе называлі, уразілі, і захацелася нешта перакласці. Спачатку з'явілася невялічкая падборка, неўзабаве надрукаваная. Потым патэлефанаваў выдавец, прапанаваў выдаць зборнік. І пайшло-паехала.

**— «Гімн ідалапаклонніцы» — першая кніга Пасвятоўскай. У чым, у якім выяўленні ўсё ж яна з'яўляецца ідалапаклонніцай? Ці такое самавызначэнне — усяго толькі мастацкая правакацыя?**

— «Гімн ідалапаклонніцы» (дакладней было б сказаць «Ідалапаклонніцкі гімн», але пры такім перакладзе губляецца асоба жанчыны, паэткі, паганскай жрыцы) — верш Пасвятоўскай, якога няма ў аднайменным зборніку, але ён быў расшуканы пасля смерці паэткі ў яе архіве. Магчыма, сама аўтарка ці рэдактар палічылі яго нясталым і выкасавалі з кніжкі. У «Ідалапаклонніцу» я яго ўключыў, бо лічу, што ён адметны, а вобраз язычніцы, ідалапаклонніцы магістральны ў творчасці паэткі. Гэта код да яе разумення, асэнсавання. Рэч у тым, што ў вершах аўтаркі прысутнічае тэма пакланення каханню, каханаму, яно па сутнасці сваёй язычніцкае, ахвярнае і жарснае, гэта як прырода, таму не сказаў бы, што гэта мастацкая правакацыя.

**— Асабліва прыцягваюць вершы Галіны Пасвятоўскай, прысвечаныя каханню. Ды і ўвогуле, лічу, уся яе паэзія — гэта праніклівыя творы, што вылучаюць чалавека ў каханні, у любові, сумненнях, звязаных з гэтымі з'явамі... Вам імпануе яе асэнсаванне кахання?**

— Мне вельмі блізкія пачуцці паэткі. Я адчуваю і разумею іх, нягледзячы на тое, што я мужчына, а яна — жанчына.

**— Ці згодны вы з тым, што паэтычнае майстэрства Галіны Пасвятоўскай у многім заснавана на яе добрым веданні сусветнай паэзіі — еўрапейскай, амерыканскай, нават кітайскай?**

— У дзяцінстве Галіна чытала вельмі шмат. Баючыся за яе здароўе, маці адбірала ў яе кніжкі, але дачка хавала іх пад падушку і чытала ўпотайкі па начах. Натуральна, што яна ведала розную паэзію, айчынную і замежную, сучасную і класічную. Падчас жыцця ў Амерыцы яна асабіста ведала многіх тамтэйшых аўтараў, перакладала на польскую іх вершы, вывучала традыцыю. Але яна заўжды заставалася сабой, непаўторнай, самабытнай, адмысловай. Якраз у другой палове ХХ стагоддзя ў польскай паэзіі адбыўся масавы пераход да верлібра, а ў 1960-х амаль усе польскія паэты пісалі вольным вершам. І ў творчасці Пасвятоўскай ён таксама стаўся асноўным. Хаця ў яе сустракаюцца і рыфмы, але гэта хутчэй выключэнне. Паэтка ўвабрала досвед сваіх папярэднікаў і стварыла ўласны, унікальны стыль, непадобны ні да кога.

**— Калі гаварыць пра блізкасць польскай паэткі да сваіх нацыянальных, польскіх прыярытэтаў, то ўпоравень з кім з палякаў яе можна паставіць?**

— Вельмі цяжка параўноўваць паэтаў, паэтак, бо кожны з іх унікальны і непаўторны, але калі казаць пра постаці, з якімі ў мяне атаясамліваецца Галіна Пасвятоўска, дык першай назваў бы яе сяброўку — Вісалаву Шымборскую. Дарэчы, пасля таго, як яны пазнаёміліся праз лекара Юльяна Александровіча, Галіна неўзабаве пачала пісаць. Другая асоба, з якой перагукаецца творчасць нашай гераіні, безумоўна, — Ганна Свіршчыньска, паэтка, невядомая беларускаму чытачу. Хаця на першы погляд іх біяграфіі непадобныя, але творчасць і адной і другой я назваў бы высакаякаснай паэзіяй жанчын.

**— Здаецца, раней Пасвятоўскую — мо недзе ў тыя самыя 1960-я гады — перакладаў Максім Танк. Ці былі іншыя пераклады на беларускую мову?**

— Так, сапраўды, у альманаху «Дзень паэзіі» за 1965 год быў змешчаны верш Пасвятоўскай «*Moja twarz coraz bardziej…*» у перакладзе Максіма Танка. Акрамя яго вершы Галіны Пасвятоўскай перакладаў Алег Лойка, яны былі ім надрукаваныя ў аўтарскай анталогіі польскай паэзіі ХХ стагоддзя «Ад Буга да Варты». На сайце *Літаратура.орг* змешчаныя пераклады Наталлі Русецкай і Хрысціны Граматовіч. Іншыя мне невядомыя.

**— Беларускі зборнік «Ідалапаклонніца» — гэта ж не ўся творчая спадчына Пасвятоўскай. Ці працягнеце вы яшчэ звяртацца да творчасці гэтай паэткі?**

— Поўны збор вершаў Галіны Пасвятоўскай налічвае звыш шасцісот старонак, г. зн. больш за паўтысячы вершаў. Пераклаўшы 80 з іх, лічу, што задачу мінімум я выканаў. Цяпер патроху перачытваю, перакладаю тое-сёе, але пакуль не думаў пра выданне. Можа, калі-небудзь пасля. Натуральна, хацелася б зрабіць больш грунтоўнае і поўнае выданне, але яшчэ шмат не перакладзеных твораў іншых цікавых польскіх паэтаў, хацелася б ахапіць як мага больш аўтараў.

**— Хто, якія імёны цікавяць вас у польскай паэзіі?**

— У першую чаргу назваў бы імёны Ганны Свіршыньскай, Анджэя Бурсы, Тадэўша Бароўскага, Адама Загаеўскага, Яна Леханя ды інш.

**— Алесь, некалькі слоў як спецыяліст пра сённяшні стан у галіне мастацкага перакладу польскай літаратуры на беларускую мову?**

— Мне здаецца, што цяпер усё няблага. Мы маем дастаткова перакладаў польскіх аўтараў ХІХ і першай паловы ХХ стагоддзя, перакладчыкаў не становіцца менш, наадварот, іх колькасць з кожным годам павялічваецца. Наогул, палякам пашанцавала, што яны нашыя суседзі, іх перакладаюць, напэўна, больш за астатніх. Тут з імі могуць пацягацца, хіба што, украінцы. Адзіную праблему бачу ў тым, што многія важныя для нас класічныя тэксты дасюль не перакладзеныя, а некаторыя творы перастварылі ўжо па некалькі разоў. Да прыкладу, знакамітага «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча перакладалі ажно пяць разоў, а ягоную «Оду бульбе» — аніводзін. Я не хачу сказаць, што пяць перакладаў для такога твора, як «Пан Тадэвуш», шмат, але мяркую, што на сённяшні момант Міцкевіч мусіў быць перакладзены і прачытаны калі не ўвесь, дык па меншай меры адсоткаў на 80. Вельмі мала па-беларуску Славацкага, добра, што ёсць пераклады Норвіда і іншых рамантыкаў. Для мяне больш цікавая польская паэзія другой паловы ХХ стагоддзя, якую пакрысе адкрываю і спадзяюся паказаць яе нашым чытачам ва ўсёй разнастайнасці і разнапланавасці.

Гутарыў Мікола БЕРЛЕЖ

# «Арытмія заіклівасці»: нялёгкі кон перакладчыка

Ён у паэзіі — альбо раб, альбо супернік. У гэтага выказвання можа быць працяг, прычым не самы аптымістычны. Незнарок перакладчык можа стацца тым, хто робіць мядзведжую паслугу аўтару арыгінальных тэкстаў.

Летась у «Мастацкай літаратуры» выйшаў перакладны зборнік паэзіі Ёзафа Лайкерта, сучаснага славацкага аўтара. Ён мае дзесяць зборнікаў вершаў, першы з якіх датуецца 1995 годам. Таксама працуе з літаратурай факта. Кнігі выбранага перакладаліся на балгарскую, чэшскую, расійскую, украінскую, сербскую і іншыя мовы. Ёзаф Лайкерт атрымаў шэраг літаратурных прэмій, сярод найбольш цікавых узнагародаў — залаты медаль Льва Талстога. Жыве ў Браціславе.

Кніга «Крыжы на ростанях» мелася прадставіць беларускаму чытачу цікавага, удумлівага паэта. Пра тое сведчыць хоць бы змест: вершы выбраныя з усіх, за вынятам найноўшага, зборнікаў Лайкерта. Так, мы маем магчымасць пазнаёміцца не толькі з сучасным славацкім паэтам, але і звярнуцца да пачатку яго шляху, разглядаючы паасобныя сляды, што вялі ад услаўлення кахання да дыялогу з Богам, ад паэтычнай рэфлексіі — да адмаўлення мітуслівай штодзённасці. Ёзаф Лайкерт — паэт кароткага слова. Прастора між лаканічнымі радкамі гучыць гэтак жа, як і самі радкі. Сэнс ёсць у гука і ў яго адсутнасці. Асобныя вершы, асабліва позняй пары, нагадваюць такія дзіцячыя маляванкі, дзе ўпарадкаванае спалучэнне асобных кропак дае карцінку, раней не бачную. Так і ў Лайкерта: кропка, кропка, кропка — а сувязі сэнсаў робяць іх адным цэлым, расшыфроўваюць згорнутую да некалькіх словаў думку.

Усё гэта можна пабачыць у «Крыжах на ростанях». Перакладчыца Вікторыя Ляшук сапраўды старанна паставілася да ўкладальніцкай справы, гэтаксама захавала піетэт да фармальных рэчаў, такіх як памер радка, паэтычная хада слова, нават графічны выгляд верша. І ў гэтым, аднак, праблема: паасобныя вершы, перанарадзіўшыся, так і не зрабілі першы ўздых. Ці ім не хапіла кроўнага разумення слова, ці нейкай абстрактнай божай іскры — не ведаю, аднак словы, абраныя Вікторыяй Ляшук, часам так і застаюцца словамі, не здолеўшы вызваліць з абалонкі напісанага паэзію задуманага. Прадчуванне паэзіі, цьмянае намацванне таго, што сказаў паэт, — ёсць. А большага... Нават не ведаючы славацкай мовы, вы можаце параўнаць гучанне верша ў беларускім варыянце і ў арыгінале, балазе, «Крыжы на ростанях» — кніга дзвюмоўная. Пасля такога параўнання стане відавочным, што нешта перакладчыца выпусціла з-пад увагі — ці так і не здолела дасягнуць.




І падаецца, слушны ўсё ж другі варыянт. Бо ў асобных складаных выпадках Вікторыя Ляшук адмаўляецца ад пошуку беларускага слова і дае славацкае: «кожны кут ночы / насякне ўздыханнем» (набрыняе, споўніцца), «буду як апіты / не згасі мяне» (тут сэнс застаўся незразумелы), «маўляў ён добра гумуе», у іншым вершы з'яўляюцца няўцямныя «рараты». Сустракаюцца й такія тэксты, дзе пераклад якраз можна было б прамінуць ці адступіць ад дакладнага значэння аднаго слова, каб наблізіцца да першасэнсу верша ў цэлым, што, відавочна, мае большую вагу. Ілюстрацыя — у адным з раздзелаў «Памінуласці»: «дзверы прычыненыя / і ўсё ж адчыненыя». Гучыць мудрагеліста-танна. Аднак у арыгінале дзверы прымкнутыя, і ўсё ж — *атвораныя*. З перакладам «атвораных» складаней, але ж можна было пакінуць «прымкнутыя». Адно слова, амаль тоеснае "прычыненым" — але як змяняецца верш, наколькі вальней робіцца сэнсам у двух невялікіх радках!..

Сустракаюцца ў зборніку перакладаў банальныя русізмы: *шляпа*, *світар*, *гразь* (не ў тым значэнні, якое мае беларускі амонім), *льеш* (замест ліеш), *усляпую* (наўслеп), *раз у годзе (раз на год)* і інш. Таксама — немілагучныя наватворы наўзамен вядомым адпаведнікам, якія маглі б стаць часткай верша, але пры гэтым парушылі б рытміку арыгінала: «і яшчэ болей бурным пешчаннем», «як цябе ўбачу, мае вочы высковаюць», «гару нецярплівасцю» (ці не лепш было б «нясцерпна палаю»?..).

Словам, гэтая кніга знаёміць чытача больш з самім Ёзафам Лайкертам, чым з яго паэзіяй. Дзіўна, што на гэта пагадзіўся рэдактар кнігі Віктар Шніп. Перакладчыку рэдактар патрэбны не менш, чым іншаму аўтару, незалежна ад яго таленту, філалагічнай інтуіцыі: у працэсе тэхнічнага перакладу, пошуку адпаведніка перакладчык можа ненаўмысна выпусціць з-пад увагі рэчы тонкія і пры тым вызначальныя для тэксту (асабліва што датычыць паэзіі). Таму пытанні найперш можна адрасаваць якраз рэдактару зборніка.

Наста ГРЫШЧУК

## Ганад ЧАРКАЗЯН



***

*Каб душа бязвыхаду не мела,*
*Каб хапала гарту ёй і сіл,*
*Каб рука ў напружанні не млела,*
*Ты лагоды ў слова папрасі.*

*Хай табе ў каханні не шанцуе,*
*Засцілае зрок туман густы,*
*Калі слова справай падмацуеш,*
*Дык тады яно — не гук пусты.*

*А пустыя словы як чужыя.*
*Ты не вер чужому салаўю.*
*Цягне ён мелодыю сваю.*
*А пустым адзення не зашыеш,*
*Не сугрэешыш сябра і сям'ю.*

*Памятаць патрэбна і паэту*
*(У разлік бяздарцаў не бяры!):*
*Што стварыў ты словам,*
*Усё гэта*
*Можна тым жа словам разбурыць.*

*Не цярплю адпетых пустасловаў,*
*Іх пустамалотнай балбатні.*
*Сумных пустабрэхаў густабровых*
*Я, напэўна, бачыў больш, чым сніў.*

*Так яны спявалі нам, бывала.*
*Кожны сам не ведаў, што вярзе.*
*Памяць словы іх упакавала*
*У стракаты забыцця музей.*

*Кожны з іх пакінуў мне надзею.*
*На мяне самога, балазе.*
*Месца там хапае, у музеі.*
*Хто з вас там наступны на чарзе?..*

***

*Не будзе цуду,*
*Не дазволіць страта,*
*Такія толькі шанцы ў дзівака.*
*Перад табой я ўкленчу вінавата…*
*А ты чагосьці іншага чакаў?*

*Пачнуць вятры спадзеву аціхаць.*
*Завяла ўсё — няма чаму дзівіцца.*
*Каб зноў цябе, як некалі, кахаць,*
*Няўжо наноў патрэбна нарадзіцца?*

*А там спачатку трэба пачынаць,*
*Чакаць, пакуль ты станешся дарослай.*
*Шчаслівым не зайздрошчу я аднак*
*І не цярплю і воч, і душ зайздросных.*

*Чакаць, дзе я чакаць ужо не мог,*
*А хто мне нешта лепшае параіць?*
*Чакаць, чакаць,*
*Пакуль жыццё само*
*На мудры лад свой мудра ўсё направіць.*

***

*Усход — гэта заўсёды ўзыход*
*Недзе высока, пад крылы аблокаў,*
*Дзе і хада, і задума, і сэнс*
*Мусяць сягаць высока.*

*Усход — гэта рэкі,*
*Якія ў гарах*
*Не проста цякуць — бурапеняць,*
*Дзе паважаюць імклівы разгон,*
*А цэняць найбольш цярпенне.*

*Усход — не толькі гліна з пяском*
*І паранджа туману,*
*А чалавек, што ў святое ўсё*
*Горача закаханы.*

*Усход — гэта слёзы, і кроў, і гром,*
*І непахіснасць, і мужнасць.*
*Што тут мудрыць,*
*Паважаюць Усход*
*Толькі за вернасць і мудрасць!*

## Граніца

*Успамін*

*Была мяжа відаць як на далоні.*
*З акна рукой я даставаў яе.*
*Гулі машыны,*
*Дзесь іржалі коні,*
*Быў мост,*
*Каля яго — мяшкі з пяском…*

*Заставу помню:*
*Гамана, трывога,*
*І нейкі пільны палец на курку.*
*Дзяўчына*
*Недзе з берага чужога*
*Пераплыла, адчайная, раку.*

*Стары тытунь,*
*Балючая зацяжка,*
*Зялёныя, нібы трава, фуражкі,*
*Якіх для нас, малечы, не шкада,*
*Ну а ў руках вясёлыя біклажкі,*
*А ў іх гарланіць глумная вада…*

***

*Нелюдзімых не цярплю людзей.*
*І мураш ля іх безабаронны,*
*Свой адразу робіцца чужым,*
*І здаецца родны лес не родным.*

*Хто цярплівы, можа ўсё сцярпець,*
*І хлусню чыюсьці,*
*Нават здзекі.*
*І сваё й чужое, мабыць, ёсць*
*У душы складанай чалавека.*
*І не ведае часамі ён,*
*Дзе чужое тое, дзе — сваё.*

*Сумна, калі спраў было зашмат,*
*Выжыць, збегчы з петляў незлічоных,*
*Выбрацца з балотнай багны чорнай.*
*Сумна, калі выйсце ўсё ж знайшоў,*
*Зноў вярнуцца раптам у пячору.*

*Хто ж, калі не сам ён, чалавек,*
*Ставіў міны сам сабе калісьці.*
*Чалавек загнаў сябе ў тупік,*
*А адтуль няма, як бачна, выйсця.*

**Пераклад з курдскай**
**Казіміра КАМЕЙШЫ**

## Алесь КАЗЕКА



## Шлях

**Паэма**

*Зноў святло… І дзень прыходзіць.*
*Ноч прайшла. Мы будзем жыць.*

**1**

*Па балоце, па чароце —*
*Дзе зданнё блукае-ходзіць,*
*На самшэлым пні-калодзе*
*Чэзлых дрэўцаў ліст дрыжыць —*
*То па твані, то па бродзе,*
*Цераз мутныя разводдзі,*
*Як у дзікім карагодзе,*
*Наш няблізкі шлях бяжыць.*

*Праваднік дрыгву кранае,*
*Быццам дзверы адчыняе.*
*Мы за ім кіі мачаем,*
*Спатыкнёмся там і сям.*
*Дзень праходзіць, вечарэе,*
*Сонца меней, меней грэе.*
*— Як да ночы не паспеем —*
*Гора, гора будзе нам.*

*Недзе ў небе шляхам Млечным,*
*Што часы збірае ў вечнасць,*
*Бездакорны і бясспрэчны*
*Месяц выйшаў у дазор.*
*На сузор'яў вабных квецень*
*Ліхтаром маўклівым свеціць,*
*Захінаючы суквецці*
*Мігатліва-яркіх зор…*

*Звечарэла. Ціха, ціха…*
*Ноч спускаецца, як ліха,*
*Толькі багны ўслед уздыхі*
*Адгукаюцца ў кустах.*
*Ад вады смурод балотны*
*Цісне, нібы воўк галодны.*
*І гадзюкай падкалоднай*
*Запаўзае ў сэрца жах.*

**2**

*Цішыні навіслай глыба*
*Скаланецца цяжкім зыбам —*
*Быццам нас халоднай крыгай*
*Хто да багны прывязаў.*
*Нематой пяюць чароты*
*У самоце: «Хто ты? Хто ты?*
*І навошта ты з балотам*
*Свой гаротны лёс звязаў?»*

*Дзе ж вы? Дзе ж вы, людзі?*
*— Людзі!..*
*Ліпкасць твані лезе ў грудзі,*
*Рэжа, скоўвае і круціць*
*Бы вядзьмарка памялом.*
*— Не здавацца! Крочыць! Крочыць!..*
*А ў адказ сычы рагочуць,*
*Быццам служкі цемры хочуць*
*З ночы высмактаць святло.*

*— Гэй, сюды! Сцяжынка быццам*
*Уначы святлом іскрыцца —*
*Праваднік гукнуў.*
*— Вадзіца*
*Раўчуком кудысь заве.*
*І з надзеяй зноўку гужам*
*Топчам сэрца багны дружна.*
*Толькі дол бурліць натужна —*
*Пеніць, стогне і раве.*

*— Цур мяне! Назад!*
*— Трымайся!*
*— Прападзі, зданнё!*
*— Хавайся!*
*— Бачыш, пляма — прыглядайся! —*
*Чорным бляскам зіхаціць?*
*Побач там, глядзі, бяляві —*
*Дзеля здзеку ці забавы —*
*Д'ябал позіркам крывавым*
*Не міргаючы глядзіць.*

*І ўзарвала цемру страхам.*
*Нас, як збітых стрэлам птахаў,*
*Праз начны прывідаў жахі*
*Раскідала пад карчы.*
*Доўга-доўга злая сіла*
*Па-над безданню насіла,*
*Покуль здолелі насілу*
*Гэты страх перамагчы.*

*……………*

*…І далей цераз балота*
*Міма высахлых чаротаў,*
*Вокнаў чортавых да броду*
*Рэштки нас пайшлі ўначы…*
*Дзе ты? Дзе ты, гай цяністы,*
*З пахам верасу і лісця?*
*Дзе ты, бераг? Дзе ты, выйсце?*
*Холад. Багна. І сычы…*

**3**

*Край мой блізкі, край далёкі —*
*Шлях свабодны і шырокі —*
*Там, дзе бор шуміць высокі*
*І гукае адпачыць,*
*Дзе паветра смак не горкі,*
*Дзе даліны і пагоркі*
*Сцерагуць адвеку зорка*
*Ад святых крыніц ключы.*

*Я па выгінах балотных*
*Да цябе імкнуся, родны,*
*Бо з тваім жывое народам*
*Бог, распяты на крыжы…*
*— Пагалядзі! На ўсходзе золак*
*Скрозь імжу начную ўсходзіць.*
*Зноў святло… І дзень прыходзіць.*
*— Ноч прайшла…*
*Мы будзем жыць!*

## Вераніка МУСВІДАС



## Разам

*Хацелі, каб кожны*
*Застаўся сабою:*
*Ты ўзяў сабе неба,*
*А я сабе — мора.*
*І неба ў тваіх*
*Задрыжала далонях,*
*А ногі мае*
*Патанулі ў бяздонні.*

*І мы паступова*
*Зліліся са светам.*
*Ніхто і ніколі*
*Не ведаў пра гэта.*

*Нябёсаў далоні*
*Тваe не ўтрымалі,*
*А хвалі — надзеяй*
*Няспраўджанай сталі.*

*Табе — гэта неба,*
*А мне — гэта мора,*
*Каб зведаць*
*Высока-глыбокае гора.*

*І мы зразумелі,*
*Працятыя часам:*
*Ці неба, ці мора, —*
*Галоўнае — РАЗАМ.*

***

*Спазніўся твой*
*чулліві спеў,*
*І ўчора я*
*табе сказала:*
*Каханы мой,*
*ты не паспеў*
*Да часу,*
*калі я чакала.*
*Мне б толькі*
*сённа датрываць,*
*Не захлынуўшыся*
*ў спакусе,*
*І ад цябе*
*далей схаваць,*
*Што аднаго*
*цяпер баюся:*
*Каб ты мне*
*заўтра не сказаў,*
*Зусім адчужана*
*і смела:*
*Да часу,*
*калі я чакаў,*
*Каханая,*
*ты не паспела.*

***

*Па сцяжыначцы крочачы,*
*Непрыкметнай і вузенькай,*
*Нечакана даверліва*
*Я злучылася з Музыкай.*
*Нібы з сонцам сустрэлася,*
*Абярнуўшыся птушкаю:*
*На аблоках прыгрэлася,*
*Стала ўпэўненай, дужаю.*
*Больш мой шлях пад нябёсамі*
*Не здаваўся мне вузенькім,*
*Бо, на шчасце, сустрэлася*
*Я з душой тваёй — Музыкай…*



Раіса ДЗЕЙКУН

# ПАМЯНЯЛІСЯ МЕСЦАМІ

*Абразкі*

## Запавет

Незадоўга да скону, нібы прадчуваючы, стары Алёкса папрасіў сына неадкладна наведаць вёску і могілкі, дзе пахаваны яго бацькі ды дзяды і дзе жыў ён сам. Да высялення.

Пастаяўшы каля тых месцаў, дзе былі хаты, а цяпер раскашавалі бур'яны і хмызняк, стары наказаў сыну запамятаць гэтыя кавалачкі зямлі і ніколі не забываць, а калі яго не стане — перадаць гэты запавет сваім дзецям і ўнукам, а тыя — сваім.

Стары быў упэўнены, што «не вечна ж зямля дзядоўпрадзедаў будзе хворай — ачуняе» і на яе вернуцца яго будучыя спадчыннікі.

## Востраў не ў акіяне

Пры чарговым удакладненні межаў так званай «зоны» некалькі вёсак было вынесена за межы зоны адсялення. Трапіла ў гэты пералік і вёска Тульгавічы, нават тая яе частка, дзе жылі пажылыя людзі, якія наадрэз адмовіліся пакідаць свае дамоўкі. Улады не сталі вывозіць іх жыхарам і забяспечылі ўсім неабходным: электраэнергіяй, тэлефоннай сувяззю ды іншымі выгодамі.

І атрымалася такая рэчаіснасць: фармальна частка вёскі не з'яўлялася зонай адсялення. Так і існаваў тут гэткі абжыты востраў. Хойніцкі айцец Уладзімір нават у адной з пакінутых хат «філіял» царквы арганізаваў. Праўда, ролю падсвечніка выконваў таз з пяском, а на месцы іканастаса — тыпаграфскія іконы, абгорнутыя мясцовымі ручнікамі.

Сапраўдны населены «востраў»... Але які ж незвычайны: не ў акіяне, а ў зоне забароны...

## Мёртвыя вёскі і «жывыя» могілкі

Вёскі, што патрапілі пад самы вялізны радыяцыйны выкід, а іх жыхары былі вывезены ў больш чыстыя мясціны, сталі мёртвымі. А вось могілкі, дагэтуль мёртвыя, наадварот: ажылі. Не толькі на Радуніцу — дзень памінання памерлых, а і на працягу года тут стала людна. Жыхары, што былі выселены з гэтых мясцін, нізавошта не хацелі «сяліцца» пасля смерці нідзе, акрамя «сваіх могілак». Дзецям і ўнукам наказалі хаваць іх толькі тут.

Так вёскі з могілкамі памяняліся месцамі: першыя сталі мёртвымі, а другія — жывымі.

## Буслы — спадарожнікі людзей

Людзей па жыцці заўжды суправаджалі буслы — сяліліся побач з імі. Людзі былі не супраць такога суседства: белакрылыя птахі «прыносілі» дзяцей. Удзячныя за гэта, яны дапамагалі буслам будаваць іх селішчы. Для спадарожнікаў масцілі «фундамент» на сваіх хатах, на воданапорных вежах, на тэлеграфных слупах — бліжэй да неба.

Калі здарылася тая чарнобыльская бяда і людзі вымушаны былі пакінуць свае хаты, услед за імі зняліся са сваіх гнёздаў буслы. Аказалася, што яны не селяцца ў нежылых вёсках.

Апусцелі вёскі, апусцелі бусліныя гнёзды. А некаторыя зусім зніклі з вачэй — іх пахавалі разам з хатамі. Цішыня і пустэча... Так здавалася.

«Свята месца пуста не бывае», — сцвярджае народнае мудраслоўе. А яшчэ кажа, што прырода не любіць пустэчы. Так і тут — сталася неверагоднае: замест белых буслоў у гэтых мясцінах з'явіліся чорныя. Як нейкі сімвал той чорнай бяды, што спазналі людзі. У адрозненне ад сваіх белых сабратоў чорныя сталі прыглядвацца да закінутых вёсак і нават — людзям прыкмеціліся! — будавацца у іх свае гнёзды.

Чорным суродзічам белых буслоў даводзіцца клапаціцца пра сябе самім. «Чырванакніжнік» тут поўная процілегласць беламу: звычайна ён селіцца ў глухамані, гнёзды ладуе нізка ад зямлі. На яго палююць рысі і арланы, і ён пастаянна ў небяспецы, а таму напагатове. Вось і мосціць свае гнёзды ў глушы — падалей ад усяго жывога.

Такая прыкмета сённяшняга дня ў гэтых мясцінах...

## Супраць радыяцыі — зефір і мармелад!

Чалавек да ўсяго прызвычайваецца. Так закладзена прыродай. Дакладна гэта ведаюць тыя, што жывуць і працуюць у забрудненых раёнах, а асабліва самасёлы. Навучыліся змагацца з нябачнай і вераломнай радыяцыяй па-свойму. Напрыклад, калі ловяць у мясцовых вадаёмах свежую рыбу, то, калі чысцяць, выкідваюць усе косткі, бо добра ведаюць, што яны найбольш небяспечныя. А пасля спажывання мяса налягаюць на… зефір і мармелад. Ад вучонага, які паставіў на сабе гэты «вопыт», яны пачулі, што цэзій добра выводзяць менавіта гэтыя прысмакі, бо ў іх шмат пекціну.

## У вальеры… лясні́к, або Памяняліся месцамі

Адышоўшы ад першых жахлівых гадоў пасля выбуху, рассяліўшы людзей, якія вымушаны былі пакінуць свае селішчы, улады задумаліся над уладкаваннем «зоны». Дзесьці праз дзясятак гадоў пасля бяды з Белавежскай пушчы да яе завезлі шаснаццаць зуброў (чатырох самцоў і дванаццаць самак). Больш як год веліканы знаходзіліся на «каранціне» за спецыяльнай агароджай і пад наглядам: з ранняй восені да вясны яны забяспечваліся падкормкай — сенам, саланцамі. Для іх арганізавалі вадапоі, засейвалі кармавыя палі.

Потым зуброў выпусцілі на волю, прыставілі лесніка, каб той падкормліваў бальшуноў. Зноў абгарадзілі тэрыторыю, але не тую, дзе пачалі абжывацца і размнажацца новыя насельнікі, а… леснікову. І атрымалася, што ў вальеры апынуліся зусім не звяры-волаты...

З часам зубры прывыклі да чалавека, перасталі яго баяцца і пачалі ўпрытул падыходзіць да агароджы, разглядаць «свайго суседа». Што называецца, памяняліся месцамі.

## Карысць для справы

З развіццём спадарожнікавай навігацыі сталі непатрэбныя геадэзічныя сігналы. Але ж на іх у свой час выдаткавалі не абы-якія грошы, фізічную сілу. І прыйшла камусьці думка, што яны яшчэ спатрэбяцца людзям — у «зоне». З усёй Беларусі звезлі вышкі. Тут яны пачалі выконваць іншую ролю: з іх цяпер назіраюць за наваколлем — каб дзе што не ўзгарэлася само або хто незнарок не ўчыніў падпал.

А яшчэ гэтыя сігналы прыходзяць на дапамогу людзям як тэлефонныя перагаворныя пункты, калі мабільныя тэлефоны не працуюць. Ужо на вышыні 20 метраў перашкоды для сігналаў знікаюць, і тады можна звязацца нават з суседзямі — украінскімі мабільнымі апаратамі.

## Адзіная кропка на зямлі, або «Ноеў каўчэг»

На гэтай тэрыторыі «да Чарнобыля» было раскінута каля ста вялікіх і маленькіх вёсак, якія ўваходзілі ў склад самых паўднёвых раёнаў Гомельскай вобласці — Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага. Ім дасталася самая вялікая колькасць радыяцыі, і таму людзей адсялілі. Праз два гады «пасля Чарнобыля» замест іх тут з'явіліся і засталіся навечна толькі вялікія камяні з надпісамі: назвы вёсак і лічбы — колькасць былых жыхароў. Гэтая тэрыторыя адчужання атрымала новую агульную назву — «Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны заказнік».

На ўваход да заказніка — вельмі строгая ахова. Людзі ў ім не жывуць, але жыццё тут ўсё роўна працягваецца. Незвычайнае, бо сюды спецыяльна завезены розныя жывёлы, расліны. Людзі назіраюць за гэтай тэрыторыяй і яе насельнікамі. Вывучаюць, як ужываюцца. Без чалавека. Гэтыя даследаванні вельмі каштоўныя.

У зоне адчужання — незвычайны клімат і мясцовасць. На гэтым кавалку зямлі навакольле аб'ядноўвае ўсе асаблівасці беларускага Палесся, што існуюць у прыродзе: тут табе і прыгажуня Прыпяць са сваімі прытокамі і азярцамі, і балоты з самымі сапраўднымі дзюнамі (праўда, невысокімі), і лясы з палямі рознага «калібру».

У заказніку — больш як тысяча відаў раслін. Ад флоры не адстае і фаўна: адных толькі птушак тут каля трохсот відаў, а яшчэ — звяры, рыбы. Больш як чатыры дзясяткі тыпаў жывёл адносяць да рэдкіх і знікаючых.

Месца, падобнага гэтаму, на планеце Зямля няма. Гэткі «Ноеў каўчэг».

## Непарушныя, недакранальныя

Падчас адсялення-высялення, пахавання вёсак гэтыя аб'екты засталіся (як і могілкі) на сваіх месцах. Ні ў кога ў той ліхі час не з'явілася нават думка і не паднялася рука руйнаваць іх. А яны былі амаль у кожнай пакінутай вёсцы.

Гэта — помнікі савецкім воінам.

Салдаты-абаронцы, што загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны і паляглі на гэтай зямлі навекі, і цяпер стаяць на яе варце. За манументамі пастаянна наглядаюць супрацоўнікі заказніка, упарадкоўваюць іх. І нічога, што падфарбавалі іх трохі ў незвычайныя колеры, — так, наадварот, яны сталі больш прыкметнымі і цяпер відны здалёку.

Нашы дарагія ахоўнікі, якіх берагуць і якія самі стаяць на варце. Вечная!



# НЕПАКІНУТЫЯ ПЕСНІ ПАКІНУТЫХ ВЁСАК

**Вёсак няма: адселеныя пасля Чарнобыля. Але ёсць памяць пра тое, што яны былі, ёсць жаданне зразумець і захаваць тое, чым жылі людзі, што было для іх істотна, пра што ім хацелася спяваць: калі з радасцю пра любоў і надзею, калі ў спакоі калыхаць-закалыхваць дзяцей-унукаў, калі сумаваць ці ўвесь свой боль выліваць у шчымліва-прыгожай мелодыі і пранікнёна-простых словах.**

Народныя песні рэгіёнаў, асірацелых пасля Чарнобыльскай аварыі, — Брагінскага, Ельскага, Нараўлянскага, Хойніцкага раёнаў — захаваныя і нават далі падставу стварыць асобную кнігу. Унікальны матэрыял быў сабраны яшчэ задоўга да катастрофы і чакаў свайго часу ў архівах. Да 31-й гадавіны трагедыі выдавецтва ТДА «Бяловагруп» выдала кнігу «Песні пакінутых вёсак».

— Выданне любой кнігі — ужо значная падзея, а на такую тэму — тым больш радасная, — адзначыў на прэзентацыі выдання Барыс Лазука, кандыдат мастацтвазнаўства, загадчык аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. — Пакінутыя вёскі павінны быць пэўным чынам уключаны ў наша сучаснае жыццё. З гэтым трэба жыць. Мы не ведаем, колькі пройдзе часу, пакуль людзі вернуцца ў тыя мясціны: дзесяцігоддзі, стагоддзі ці нават тысячы гадоў. Але былыя мясцовыя жыхары пакінулі вельмі вялікую спадчыну: і матэрыяльную, і духоўную, у прыватнасці фальклор, песні, абрады ды іншыя традыцыі. Частка гэтага багацця захоўваецца ў нас, у Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, супрацоўнікі якога таксама ўзялі ўдзел у працы над зборнікам. Калектыў выдаўцоў змог убачыць у матэрыяле, да сённяшняга дня даступным вузкаму колу навукоўцаў, каштоўнае, бліскучае зерне, якое з годнасцю прадстаўляе беларускія традыцыі і нашу культуру ў цэлым.




Кнігу «Песні пакінутых вёсак» прадставілі ў адной з мінскіх крам сеткі «Белкніга». Зборнік ужо атрымаў высокую адзнаку: на нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі-2017» ён стаў пераможцам у намінацыі «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны».

— Калі ў першы раз я ўзяў у рукі кнігу, то адчуў нешта дужа знаёмае, — адзначыў першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Луцкі. — Дыялект тых мясцін, словы з песень — гэта маё роднае, бо я сам з суседняй, Брэсцкай вобласці. Нават пабачыў на фотаздымках ручнік, падобны да таго, што мне заўсёды дае маці, калі прыязджаю дадому.


*Ноты адной з песень у выданні.*

Выданне зборніка звяртае да каранёў і заклікае захаваць этнакультурныя традыцыі продкаў, асабліва тых рэгіёнаў, адкуль цяпер сышло жыццё. Але душа тых мясцін пульсуе ў традыцыях, фальклоры, што яшчэ захоўваецца людзьмі. Таму кніга будзе карысная для гісторыкаў, мовазнаўцаў, этнографаў, удзельнікаў прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў. Кніга багата ілюстраваная разнастайнымі фотаздымкамі — мясцовымі відарысамі і творамі народнага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Асабліва каштоўным зборнік можа стаць для былых жыхароў забруджаных тэрыторый: гэта ў нейкай ступені частка іх уласнай гісторыі.

— Мы імкнуліся перадаць дух пакінутых вёсак праз старонкі кнігі, і ў мяне як у стваральніка вынік выклікае трымценне, — прызналася дырэктар выдавецтва ТДА «Бяловагруп» Таццяна Бялова. — Хочацца, каб праз стагоддзі беларусы глядзелі на гэты зборнік як на сакральны прадмет.

Акрамя таго, згодна з запатрабаваннем дзяржавы, у дадатак да кнігі падрыхтаваны дыск з песнямі — іх перадалі на беларускае радыё. Аднак запісы былі не ў добрай якасці. Апрацоўваць унікальны песенны матэрыял узялася журналістка і музыкант, супрацоўніца беларускага радыё Таццяна Якушава. Дзякуючы ёй некаторыя песні (па меры таго, як запісы ўдалося рэканструяваць) можна пачуць у эфіры.

— Памятаеце выраз «не ведаем цану вадзіцы, пакуль не высахла крыніца»? Гэта якраз у тэму, — адзначыла Вольга Мычко, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і генеральны сакратар Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа. — Нашы атрады валанцёраў працуюць у чарнобыльскіх землях і назіраюць цяперашнюю сітуацыю. Лічу, папяровыя помнікі з такой серыі здольныя дапамагчы пазбегнуць духоўнага Чарнобыля.

Таму што не забыць — гэта ўжо прыступка да таго, каб, перажыўшы шок, пакінуўшы родныя мясціны, але не забыўшыся на свае мінулае, чэрпаць у ім сілы для працягу жыцця. Як падкрэсліў генеральны дырэктар «Белкнігі» Аляксандр Вашкевіч, «калі часцей будуць выдавацца падобныя кнігі, дзякуючы якім мы памятаем, шануем, паважаем сваю гісторыю, Беларусь адродзіцца з попелу, як птушка Фенікс».

**Шура ГРАМЫКА,**
**фота аўтара**

***Вытокі***

# Дыялог эпох і пакаленняў

## Радасць памяці пра спачылых: наш варыянт

Традыцыя ўшанавання памерлых продкаў складвалася тысячагоддзямі. Гэтая тэма не губляе актуальнасці ў нашай краіне і цяпер. У сучасным беларускім грамадстве культ продкаў, памяць пра памерлых родных — неад'емная частка чалавечага існавання. Як жыццё і смерць звязаныя і непарыўныя паміж сабой, так жывыя і памерлыя ўвасабляюць дыялог розных эпох і пакаленняў. Памяць пра продкаў захоўвалася стагоддзямі, і сёння наведванне могілак у адведзеныя для гэтага каляндарныя дні — абавязак згодна з народнай традыцыяй і пачуццём падзякі папярэднім пакаленням за сваё існаванне.

У праваслаўнай царкве ёсць агульныя дні, у якія павінны памінацца ўсе хрысціяне, — так званыя *бацькоўскія дні*. Сярод іх пачэснае месца займае Радаўніца — найстаражытнейшае свята, якое адзначаецца ў аўторак пасля Велікоднага тыдня. З аднаго боку, Радаўніцу разглядаюць як паганскае веснавое свята ўсходніх славян, звязанае з культам продкаў. Памінальныя дзеянні адбываліся непасрэдна на могілках, дзе ладзілася так званая трызна — святочная трапеза на магілах памерлых.

З іншага боку, праваслаўная царква адзначае Радаўніцу ў аўторак Фаміного тыдня. У гэты дзень вернікі памінаюць памерлых, каб «па здзяйсненні светлай урачыстасці ў славу Уваскрашэння Хрыста раздзяліць вялікую радасць свята Вялікадня і з памерлымі ў надзеі блаславлёнага ўваскрашэння іх, радасць якога абвясціў памерлым Сам Гасподзь наш, калі сышоў у пекла прапаведаваць перамогу над смерцю і вывеў адтуль душы старазапаветных праведнікаў». У адпаведнасці з праваслаўным вучэннем, ад гэтай вялікай духоўнай радасці дзень памінання і носіць назву «Раданіца» альбо «Радаўніца». У нашай краіне дзень памінання памерлых адзначаецца паўсюдна і нават узаконены на дзяржаўным узроўні.

Па народнай традыцыі лічылася, што на Радаўніцу вяскоўцам дазвалялася працаваць толькі да поўдня, а потым усе, хто мог, апрануўшыся па-святочнаму, накіроўваліся на могілкі. Сярод праваслаўнага насельніцтва бытуе звычай запрашаць на могілкі святара, каб ён памаліўся за супакой душ «чыстых» памерлых. Пасля таго як святар пакідаў могілкі, людзі садзіліся каля магіл і перш за ўсё каталі па іх чырвонымі яйкамі. Традыцыя пакідання яек на магілах даволі ўстойлівая, сустракаецца і цяпер.

Тлумачылі гэта наступным чынам: яйка лічылася магічным сродкам, успрымалася першакрыніцай жыцця, з дапамогай якога магчыма было часова ажывіць памерлага. Потым накрывалі магілы абрусам і выкладвалі на іх прыгатаваныя стравы і напоі, якімі частаваліся самі і запрашалі пачаставацца родных і сваякоў, не забываючыся на душы памерлых. Гаспадыні клапаціліся, каб у гэты дзень нагатаваць як мага больш няцотных страў — так званыя «грыбкі» (тоўстыя бліны з пшанічнай мукі, на масле і яйках), яйкі, пірог з яйкамі, грачаныя бліны, мёд, тварог, каўбасы. Частку страў (куццю, мяса ды інш.) і трохі гарэлкі пакідалі «для дзядоў». Шэраг сімвалічных дзеянняў падчас святкавання Радаўніцы з мінулага стагоддзя захаваўся да нашых дзён.


*Наведванне могілак на Радаўніцу ў г. Століне.*

У гэты дзень многія жыхары краіны розных веравызнанняў і нават тыя, хто не верыць у Бога, імкнуцца наведаць магілы родных. Вернікі заказваюць у цэрквах памінальныя літургіі, упрыгожваюць магілы кветкамі, прыбіраюць тэрыторыю вакол. Захоўваецца звычай і святочнай трапезы на могілках. Аднак праваслаўныя святары не ўхваляюць святочныя застоллі на магілах, успрымаючы гэту традыцыю рэшткамі паганства, і заклікаюць успамінаць продкаў добрым словам, заказваць па іх памінальныя маленні. Нягледзячы на распаўсюджанне народнай традыцыі, вернікі пачынаюць ад яе адыходзіць, прыслухоўваючыся да слоў святароў.

Але традыцыя ўшанавання памерлых у гэты дзень глыбока ўкаранілася ў свядомасці беларускага народа, таму як гарадское, так і сельскае насельніцтва розных рэгіёнаў Беларусі імкнецца ўспомніць лепшае пра памерлых родных і сваякоў, з'ездзіць на могілкі. На Радаўніцу беларусы праваслаўнага веравызнання наведваюць царкву, дзе служыцца памінальная літургія ў гонар памерлых. Частка беларусаў захоўваюць традыцыю прыносіць на магілы «дзядоў» сімвалічную памінальную ежу і каляровыя яйкі.

**Ірына САРОКІНА,**
**этнограф**

*Чароўная Беларусь*

# ЛАВАЧКІ



Бывала, усё пачыналася так. Адна з вясковых жанчын, нягледзячы ў бок суседняга двара, праз агароды ці сад гучна крычыць:

— Гэлька, а, Гэлька, можа, трохі пасядзелі б? Чуеш, не? А то я нешта прыстамілася. Я так думаю, і ты не плот падпіраеш. Чаго маўчыш? Праца? Ды куды яна дзенецца, хай яе немач, канца ёй няма. І адкуль толькі бярэцца? Учора ўвесь дзень правошкалася, а сёння — быццам і не бралася.

І яшчэ нешта гучна казала кабета і пра гаспадарку, і пра сваю спіну, і пра суседскіх курэй. У той час як з суседняга двара ані слова.

— А, Гэлька! Я ж ведаю, што корпаешся ў агародзе. Во, глядзі ты! Глухата напала!

Калі і гэта не дапамагала, трошачкі ціцэй прамаўляла наступнае:

— А ці чула ты, даражэнькая, куды Сцёпка Мікалаеў учора ўпоцемках у новых портках хадзіў? Слухай! Зоська, суседка яго, бачыла. Дык яна сёння зранку ля калодзежа ўсё пад сакрэтам мне і расказала. Ну, калі табе не цікава, тады і корпайся далей.

І толькі яна закончыла — адразу расхінуўся маліннік і паказаўся зацікаўлены твар Гэлькі.

— Ой, бачу, ласая старая кульбачка на гарачу бульбачку. Ну дык слухай тады… Але што мы тут будзем марнець, як прышчэпленыя, — хадзем на лаўку.

Трэба разумець, што гэта дзейства адбывалася не ранкам ці каля абеду. Гучала гэтая мясцовая гаворка ўвечары, гадзін у восем-дзевяць, а мо і трошачкі пазней, калі сонца збягала за Жукаў Барок ды лагодна цягнула прыемным халадком з лугу, які ляжаў паабапал рэчкі.

Зразумела, на працягу дня лаўкі ў вёсцы таксама не пуставалі. Дзе-нідзе сядзела ці старэнькая бабулька, ці дзятва, як тыя вераб'і, то збягалася, то раптоўна знікала па сваіх ці суседскіх дварах.

А вось надвячоркам справа іншая. Пасядзець на лаўцы ды пагутарыць — як закон няпісаны. Колькі іх было, гэтых лавак! Ды каля кожнага двара! Як без лаўкі на вуліцы? Шмат лавак было, а на ўсіх ўсё роўна не хапала, бо людзей у вёсцы было — цемра. І калі нехта выходзіў праз свае веснічкі на вуліцу ды бачыў, што месца на лаўцы ўжо няма, — вяртаўся ў хату ды браў невялічкі зэдлік, а то і больш слончык, каб сесці ўдваіх. Свая лаўка магла пуставаць, бо сёння збіраліся каля Волькі. Гэта было сёння — а заўтра ўжо зноў на сваёй не хапала месца. Заўсёды весела было на гэтых лаўках, гаварліва. Вакол дзяцей — не злічыць! Пад нагамі круціліся так, што абавязкова нехта з іх атрымліваў па карку. Так, не балюча, толькі каб трохі прыцішэлі. Бо як казала старая Тэкля: «У вачах ды ў галаве адзін тлум ад вас, свавольнікаў!».

А што можна было тут пачуць! Літаральна ўсё! Немагчыма схавацца ад вока людскога, а бачылі і чулі ў вёсцы ўсё. Трохі нешта дадавалі, аздаблялі прыказкамі ды прымаўкамі. Але заўсёды без абразлівага слова. Здзеку і блізка не было. Ну толькі трошачкі, на хвіліначку, але ніхто на гэта не крыўдзіўся.

Праз нейкі час да лаўкі клыпаў дзед Лявон. Ніхто не ведаў дакладна, колькі яму было гадоў, а калі якая кабета пыталася — кідаў сваім піскілявым галаском:

— Ой, калі вецер у спіну, дык любую з вас даганю.

— А дагоніш калі — што рабіць будзеш? — падхоплівалі прысутныя.

— Вось цікава вам, сарокі! — адказваў стары Лявон. — Хіба ўжо забыліся, што робяць з вамі такія зухаватыя хлопцы, як я, калі даганяюць.

І смех каціўся па брукаванай вуліцы з канца ў канец. Дзесьці на яго адгукаліся ў дварах сабакі, а з тоўстых галін тапаляў уздымаліся крумкачы, якія зляцеліся на ноч да чалавечага жытла.

А калі ўжо зусім цямнела ды з вокнаў хат на траву лажыліся бялёсыя плямы святла, усе паціху разыходзіліся, жадаючы адзін аднаму на развітанне добрай ночы.

На імгненне лаўкі пусцелі. Але гэта было сапраўды на імгненне, бо іх займала моладзь. Вунь на лаўцы цёткі Соні граў на бацькавым гармоніку малы Санька. Малы-малы, а выцінаў добра, сардэчна. Глянеш у другі бок, а там, каля Сцёпкавых, яшчэ адзін гурт моладзі. Чутна гоман, смех ды піск дзяўчат, якіх хлопцы — падраслі, нягоднікі — шчыпаюць за бакі…

Былі лаўкі і на дваіх. Калі ўдваіх сядзелі, то астатнія да іх не падсаджваліся, бо гэтая лаўка была толькі для дваіх. Можа, менавіта ў гэты вечар і менавіта на гэтай лавачцы адбываўся першы ў жыцці пацалунак, а можа, нават вырашаўся лёс.

**Уладзімір ЦВІРКА,**
**фота аўтара**

*Свет фантазіі*

# ВАБІЦЬ САЛАМЯНАЕ ЦАРСТВА



*Валянціна Рыбакова са сваімі работамі.*

Шмат год працуе метадыстам у мсціслаўскім Доме рамёстваў Валянціна Рыбакова. За гэты час яе рукі паспрабавалі бісерапляценне, вышыўку бісерам і крыжыкам, вязанне, выраб народных лялек-сувеніраў. Ды больш за ўсё цягне майстра да саломапляцення.

Гэты від беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва захапляе і многіх вучняў Капачоўскага вучэбна-педагагічнага комплексу. Дзеці імчацца ў «саламянае царства» і пасля ўрокаў, і ў выхадны дзень. Прываблівае і майстэрства Валянціны Міхайлаўны ды незлічоныя павер'і і абрады, звязаныя з саломай.

Саломка для майстра стала матэрыялам, з дапамогай якога яна выяўляе пачуцці і думкі, паказвае свет і сваё стаўленне да яго. Такія, здавалася б, несапалучальныя якасці саломкі, як непападтлівасць і супраціўляльнасць, неверагодная пластыка пляцёнак і саламяных стужак, адкрылі перад майстрыхай вялікія творчыя абшары, якія цікавыя і маладому пакаленню.



*Юны майстар Вікторыя Мядзведская.*

Работы з саломкі розныя па тэхніцы выканання і складанасці. Маленькія выхаванцы робяць звaночкі, павучкову, аплікацыі. Старэйшыя плятуць з саломінак кветкі, лісточкі, косы, зубаткі, потым ствараюць з іх адмысловыя вырабы. Многія ўжо могуць самастойна зрабіць павука, вянок, лялькy, пеўніка, жар-птушку. А букет кветак, зроблены дзіцячымі рукамі, — найлепшы падарунак для матулі.

Зразумела, за дзіцячым вырабам трэба прасачыць, дапамагчы маленькаму творцу. Валянціна Міхайлаўна да кожнага знойдзе падыход, патрэбны ўзровень складанасці, падтрымае эмацыянальна.

Перасягнуўшы стагоддзі, саломапляценне, здаецца, страціла сваё першапачатковае побытавае рытуальнае прызначэнне. Але дзякуючы такім майстрам, як Валянціна Рыбакова, развіваецца як адна з найвялікшых культурных і духоўных спадчын, дэманструючы пышную гаму дэкаратыўных уласцівасцей.

**Іна МЯДЗВЕДСКАЯ,**
**фота аўтара**

*Да ведама*

# У фармаце публічнай абароны

Беларуска-польскі конкурс студэнцкіх навуковых работ па гісторыі ўпершыню стартаваў у Белдзяржуніверсітэце. Гэтае спаборніцтва прысвечана 25-годдзю дыпламатычных зносін паміж Беларуссю і Польшчай і накіравана на папулярызацыю агульнай гістарычнай спадчыны, а таксама на ўмацаванне сяброўскіх і добрасуседскіх стасункаў паміж краінамі. Удзельнікамі могуць стаць беларускія і польскія студэнты незалежна ад спецыфікі і профілю ВНУ.

Конкурс складаецца з двух тураў — завочнага і вочнага. Работы першага тура прымаюцца да 1 чэрвеня. Яго пераможцы будуць допушчаны да вочнага выпрабавання, якое пройдзе з 29 верасня па 1 кастрычніка ў Мінску. Гэты этап будзе арганізаваны ў фармаце публічнай абароны. Арганізатарамі конкурсу выступілі БДУ, Польскі інстытут у Мінску і Інстытут гісторыі Вроцлаўскага ўніверсітэта (Польшча).

***

Кніжна-ілюстрацыйная выстаўка «30 гадоў Беларускаму фонду культуры» працуе ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Юбілейная экспазіцыя адлюстроўвае выдавецкую дзейнасць гэтай грамадскай арганізацыі. Многія выданні БФК былі адзначаны вышэйшай узнагародай Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». Сярод іх — паэма Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (на польскай, беларускай і рускай мовах), паэма Аляксандра Пушкіна «Яўгеній Анегін» (на рускай і беларускай мовах), «Новая зямля» Якуба Коласа (на беларускай, польскай і рускай мовах), «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча (на беларускай, рускай, украінскай і англійскай мовах), шматмоўныя выданні вершаў Максіма Багдановіча і ілюстрацыі да іх.

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікаюць першыя выданні часопіса «Спадчына» і «Краязнаўчай газеты», «Статут савецкага фонду культуры», а таксама шэраг унікальных дакументаў аб дзейнасці БФК з фондаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

***

Прэзентацыя выстаўкі «Архітэктурная памяць Гомельскай зямлі», прымеркаваная да Міжнароднага дня аховы помнікаў і гістарычных месцаў, адбылася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. Экспазіцыя размясцілася ў паўночнай галерэі, якая вядзе ў былую хатнюю царкву палаца. Побач з макетамі згубленых храмаў Гомельшчыны, якія пастаянна тут дэманструюцца, прадстаўлены творчыя работы студэнтаў-архітэктараў першага і другога курсаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту з выявамі помнікаў архітэктуры, што захаваліся да нашых дзён.

Закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» прыняты адзінаццаць гадоў таму. Сёння ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны ўключана больш як 5,5 тысячы аб'ектаў гісторыка-культурнай каштоўнасці, звыш 880 помнікаў знаходзяцца на Гомельшчыне.

# «ЗАКАХАНЫЯ» І ПРАЦЯГ

## Шагалаўскія матывы ў творах айчынных мастакоў



*Васіль Васільеў «Млын N-Інтэрнацыяналу», 2005 г.*

**Марк Шагал — адзін з самых вядомых авангардыстаў дваццатага стагоддзя, асоба якога важная і знакавая для Беларусі. Сёлета спаўняецца 130 год з дня нараджэння майстра. З нагоды юбілею ў Палацы мастацтваў ладзіцца самы маштабны выставачны праект гэтай вясны — «Вяртанне вобраза», удзельнікі якога паспрабавалі перадаць у творах шагалаўскі стыль і дух майстра.**

Марк Шагал быў майстрам фантастычных адлюстраванняў іператварэнняў у часе. У гэтым асаблівасць яго творчасці, якая сёння — дарагі скарб для сусветнага мастацтва. Сваім мастака лічаць французы, яўрэі, расіяне. Але асаблівая ўвага да твораў — на яго радзіме. Выставачны праект "Вяртанне вобраза" — доказ таго, як эпоха Марка Шагала працягваецца і развіваецца ў нашай краіне.

— Вельмі сімвалічна, што дэвіз выстаўкі — «Вяртанне вобраза». Тут прадстаўлены розныя вобразы: матэрыяльнай культуры, загадкавыя і супярэчлівыя. Але ўсе яны падкрэсліваюць непарыўнасць і пераемнасць традыцый авангарднага мастацтва, творчага пошуку. Выстаўка нагадвае і пра тое, што Беларусь была калыскай авангардызму на пачатку XX стагоддзя, — адзначыла першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Ірына Дрыга.

У выставачных залах Палаца мастацтваў размясцілася больш за дзвесце карцін і канцэптуальных арт-аб'ектаў. Графікі, скульптары, жывапісцы, майстры дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва — кожны працуе ў індывідуальнай аўтарскай тэхніцы, але задача для ўсіх адна: раскрыць у творах асобу Марка Шагала.

Невыпадкова пачынае выстаўку знакамітая работа мастака «Закаханыя» з калекцыі Белгазпрамбанка. Далей можна бачыць творы айчынных і замежных мастакоў — удзельнікаў шагалаўскіх пленэраў у Віцебску, якія ладзіліся ў 1994, 1997 і 2016 гадах. Творы выяўляюць спробу вылучыць новыя складнікі мастацтва ў традыцыйных жанрах, што было характэрна для творчасці Марка Шагала.

— Галоўнае патрабаванне арганізатараў выстаўкі — níводная праца не павінна быць выпадковай, — падкрэсліў намеснік старшыні па выставачнай дзейнасці Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў. — Вядома ж, тут ёсць месца наіўнасці, прымітыўнасці і канцэптуальным рысам, якія былі непрымальныя ў грамадстве яшчэ гадоў дзесяць таму. На гэтай выстаўцы мы можам бачыць усе напрамкі сучаснага мастацтва. За кожнай працай — высокі прафесіяналізм, таму сёння ў Палацы мастацтваў мы можам казаць пра дасягненні беларускіх мастакоў. Дзякуючы гэтаму праекту ў мастакоў з'яўляецца больш шанцаў выказацца, пашыраецца прастора для думкі. На жаль, у нас не так шмат магчымасцяў, каб паказаць усяму свету, як выглядае сучаснае беларускае мастацтва, таму што ўсё залежыць ад арганізацыйных пытанняў, вырашыць якія нятанна. Але мы дэманструем свае ўменні, наколькі гэта магчыма.

Выставачная пляцоўка размеркавана на тэматычныя зоны, дзе мастакі з усёй Беларусі змаглі выказацца пра духоўнае і абстрактнае. Вогненныя колеры і філасофскія разважанні прысутнічаюць як у творах мастакоў старэйшага, так і малодшага пакалення. На пачатку выстаўкі ў вочы кідаюцца чырвоныя карціны земляка Марка Шагала — Леаніда Шчамялёва, які ў свае дзевяноста чатыры гады працягвае пісаць карціны. Арганічна ўпісваюцца ў кантэкст творы Сяргея Рымашэўскага: ён развівае, працягвае шагалаўскую гісторыю. Скульптурныя кампазіцыі Ліліі Нішчык падкрэсліваюць пераемнасць традыцый і стылістыкі. А некаторыя экспанаты здзіўляюць. Напрыклад, багіня Венера, зробленая з газет, альбо шкляны лес з бутэлек. Геаметрычныя шахматы на падлозе і каляровыя мазаікі на палотнах суседнічаюць з саламянымі закаханымі і дрэвамі з лямпачак…

— Сучаснае мастацтва зараз не толькі духоўнае або адчувальнае, яно яшчэ і інтэлектуальнае, — распавядае Леанід Хобатаў. — Таму выстаўка, прысвечаная Марку Шагалу, дазваляе не толькі пазнаваць стыль вялікага майстра ў працах сучаснікаў, але і вылучаць мастакоў, якія могуць прэтэндаваць на паспяховы творчы шлях. Многіх з іх сёння ведаюць па імёнах, многіх прымаюць ці, наадварот, катэгарычна адпрэчваюць. Элітарнае мастацтва скончылася, цяпер час актуальнай, канцэптуальнай творчасці, якая патрабуе дыялогу з гледачом. І глядач неабыякавы, ён больш не пасіўны і канкрэтна вызначае, што гатовы нават набыць карціну ва ўласнасць. Тут ёсць усе ўмовы, каб знайсці сваю працу, яна нават сама сябе прапануе.

Гледачы сапраўды ўглядаюцца ў творы, абмяркоўваюць канцэпцыю, спрабуюць расшыфраваць мастацкую задуму. А таксама яшчэ раз асэнсаваць адметнасць мастака, што праславіў Віцебск, замацаваць яго імя ў беларускай культуры.

Арганізатарамі выстаўкі выступаюць Міністэрства культуры Беларусі, Мінгарвыканкам, Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў пры падтрымцы Беларускага саюза мастакоў, Беларускага саюза дызайнераў, Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Выстаўка «Вяртанне вобраза» стала пачаткам цыкла адмысловых праектаў, арганізаваных Міністэрствам культуры. Так, у Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў адкрылася другая частка экспазіцыі — выстаўка «Шорт-ліст», сабраная з работ намінантаў на Нацыянальную прэмію ў галіне выяўленчага мастацтва. Учора ў межах штогадовага праекта «Мастак і горад» адкрылася выстаўка «Залатая калекцыя», дзе ў выглядзе маштабных рэпрадукцый у гарадской прасторы прадстаўлены лепшыя работы жывапісу і графікі знаных прадстаўнікоў старэйшага і сярэдняга пакаленняў мастакоў.



*Васіль Касцючэнка «Мелодыі Віцебска», 2016 г.*

**Вікторыя АСКЕРА**

# Гісторыя, якая не адбылася,

## альбо Чаму Мінск адмовіўся ад пано Фернана Лежэ?



*Мурал Фернана Лежэ.*

Сёлета адзначаецца 80-годдзе з дня нараджэння знакамітага архітэктара Сяргея Філімонава, які цяпер жыве ў Ізраілі. На працягу многіх дзесяцігоддзяў ён актыўна ўдзельнічаў у забудове беларускай сталіцы. Менавіта па яго праектах створаны Палац спорту і спарткомплекс «Дынама» ў раёне Камсамольскага возера, жылы 108-кватэрны дом у Мінску, а таксама Палац культуры ў Салігорску. Праект мінскага Палаца спорту быў паўторна ажыццёўлены ў Чалябінску, Днепрапятроўску, Валгаградзе, стаў прататыпам такога ж палаца ў Вільнюсе. Аднак мінскі Палац спорту мог мець унікальнае аблічча, якое… «не адбылося».

Малады архітэктар Сяргей Філімонаў пачаў свой творчы шлях у найбуйнейшым праектным інстытуце рэспублікі — «Белдзяржпраекце». У 1960 годзе ён — выпускнік архітэктурнага аддзялення Беларускага політэхнічнага інстытута — абараніў дыпломны праект «Універсальная глядацка-спартыўная зала на 3000 — 6000 гледачоў у г. Мінску» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Караля. Эскізы яго дыпломнага праекта ўбачыў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі К. Мазураў, яны зацікавілі яго навізной, незвычайнасцю, і неўзабаве, напрыканцы 1962 года, у «Белдзяржпраекце» была створаная брыгада па праектаванні кінаканцэртнай і спартыўнай залы на Паркавай магістралі горада (цяпер — праспект Пераможцаў). Урачыстае адкрыццё адбылося 7 мая 1966 года — напярэдадні Дня перамогі. І супала з пачаткам гастроляў украінскага мастацка-спартыўнага ансамбля «Балет на лёдзе».

Увосень 1968 года ў Мінск прыехала мастачка Надзея Хадасевіч-Лежэ, удава французскага мастака-манументаліста Фернана Лежэ. Яе суправаджаў пісьменнік Канстанцін Сіманаў. Н. Хадасевіч-Лежэ, якая нарадзілася ў Беларусі, на Віцебшчыне, мела асаблівыя пачуцці да Беларусі. Міністэрства культуры БССР зладзіла ў гонар знаных гасцей урачысты прыём, на якім прысутнічаў і Сяргей Філімонаў. Вось як пра гэтую сустрэчу згадваў сам архітэктар: «Надзя Лежэ пахваліла Палац спорту і прапанавала ўсталяваць на франтоне галоўнага фасада частку мурала (аб'ёмнае смальтавае мазаічнае пано), які стварыў яе муж Фернан Лежэ для алімпійскага стадыёна ў Берліне ў 1930 годзе да Алімпіяды 1936 года. Калі ж да ўлады ў Германіі прыйшлі нацысты, мастак адмовіўся выканаць яго ў натуры. Пано на тэму спорту — яркае, абстрактнае па форме і змесце — атрымала сусветнае прызнанне. Адна яго частка ўсталяваная на сцяне-франтоне Мемарыяльнага музея Фернана Лежэ ў Б'ёце на поўдні Францыі. Другую яго частку Надзея Лежэ прапаноўвала ўсталяваць з дапамогай французскіх майстроў-манументалістаў на франтоне Палаца спорту ў якасці падарунка беларускаму народу ад суайчынніцы».

Аднак беларускім партыйным кіраўніцтвам прапанова-падарунак была сустрэта даволі халодна. Падчас наступных сваіх візітаў у Беларусь Надзея Лежэ некалькі разоў вярталася да гэтай тэмы, вяла нават перамовы па арганізацыі і наладжванні працы. У якасці кампрамісу С. Філімонаў прапаноўваў усталяваць пано на спецыяльнай гарызантальнай стэле-сцяне ля палаца. І ўсё-ткі ні ў Міністэрстве культуры, ні ў ЦК Кампартыі БССР прапановы не былі падтрыманыя. Афіцыйная фармулёўка гучала так: «неадпаведнасць ідэйным установкам у мастацтве».

**Галіна ШОСТАК,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі.**

**Фота з фондаў БДАНТД.**

# «Пансіён Belvedere»: пяць зорак

**Мы ўжо неяк і прызвычаіліся да таго, што ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек нас чакае еўрапейскі ўзровень, пошукі новых формаў і сэнсаў, знак якасці, у рэшце рэшт. Прэм'ера «Пансіёна Belvedere» зусім не расчаравала, а, наадварот, апраўдала чаканні аматараў тэатра. «ЛіМ» наведаў спектакль і вылучыў ажно пяць прычын, чаму і вам не варта абмінаць прэм'еру.**



## ПРЫЧЫНА 1: ІТАЛЬЯНСКАЯ

«Пансіён *Belvedere*» — трэці беларускі спектакль рэжысёра з Вероны Матэа Сп'яцы. Нагадаем, што дагэтуль Матэа супрацоўнічаў з Рускім тэатрам, дзе паставіў дзве камедыі — «*Viva Commedia!*» і «Карчмарку». Такі прыклад міжнароднага тэатральнага супрацоўніцтва ў галіне рэпертуарнага тэатра ў Беларусі ўсё яшчэ нячастая радасць. Замежныя павевы трапляюць у наш тэатр часцей за ўсё падчас фестываляў і незалежных тэатральных праектаў. Аднак такія трапленні, па сутнасці, разавыя. Прайшоў фестываль, мінуў праект — і ўсё; ці будзе працяг банкету, ніхто не ведае. Плюс жа рэпертуарнага тэатра — у даўгавечнасці спектакля, а значыць, пазнаёміцца з іншым, не чыста беларускім выказваннем, змогуць многія гледачы. З такіх удалых міжнародных супрацоўніцтваў у рэпертуарных тэатрах варта ўзгадаць працу Саўлюса Варнаса ў Магілёўскім драматычным тэатры ці сумесныя праекты Іскандэра Сакаева з Маладзёжным тэатрам. Уліванне замежнай крыві ў беларускі тэатр, як паказаў і досвед узгаданых рэжысёраў, заўсёды ўплывае на яго па прынцыпе чароўнага пендалю. Асвяжаецца тэатр, трупа, аўдыторыя ды і сродкі масавай інфармацыі, для якіх замежныя імёны — нагода звярнуць большую ўвагу на свае тэатры.

Матэа Сп'яцы прыўнёс у беларускі тэатральны асяродак свой сонечны, свабодны, лёгкі і ў той жа час палкі італьянскі погляд на жыццё і тэатральнае мастацтва. Што мы бачым і на прыкладзе «Пансіёна *Belvedere*»? Калі гісторыя пра старых жыхароў пансіёна ў беларускіх майстроў, здаецца, набыла б усе адценні чорнага дый шэрага, то ў Сп'яцы галоўныя колеры — светлыя, да таго ж максімальна насычаныя. Замежны рэжысёр па-іншаму паглядзеў і на форму спектакля. У прыярытэце пастаноўкі — не звыклы для нас псіхалагічны тэатр, а тэатр прадстаўлення. Традыцыйны італьянскі жанр камедыі дэль артэ, на якой спецыялізуецца Матэа, лунае і каля гэтай пастаноўкі. У «Пансіёне *Belvedere*» таксама прысутнічаюць маскі, праўда, сучасныя, імправізацыя, інтэрактыў, замест гатовай драматургіі — толькі схема, што запаўняецца ўжо падчас стварэння спектакля сумесна рэжысёрам і акцёрамі.



*Фота Станіслава Вігдорчыка.*

## ПРЫЧЫНА 2: АКЦЁРСКАЯ

Цяжка ўзгадаць, калі яшчэ пасля спектакля зала так цёпла сустракала акцёраў. І гэта пры тым, што ў «Пансіёна *Belvedere*» яны былі пазбаўленыя сваіх галоўных прафесійных прылад — голасу і мімікі. Твары закрытыя маскамі, а ўвесь спектакль праходзіць без слоў. «Размаўляюць» на сцэне хіба што тэлевізар і радыё. Адзіны козыр у руках акцёраў — пластыка, але ж і тая даволі сціплая, бо старэчая. Нягледзячы на такую абмежаванасць інструментарыю, жыхары пансіёна ўлюбляюць у сябе па дзвюх прычынах. Першая — гэта зліццё сціплай, свайго роду драўлянай пластыкі са статычнымі маскамі, зробленымі мастачкай тэатра Таццянай Нерсісян. У спектаклі няма лялек, аднак такі дзіўны сінтэз нерухомага твару і малярухомага цела робіць саміх акцёраў на здзіўленне падобнымі да лялек. Трупа тэатра асвоіла ўжо і традыцыйную працу з лялькай, калі яна адна пануе на сцэне і закрывае сабою акцёра, і новае, папулярнае сёння раўнапраўнае існаванне лялькі і акцёра. І вось цяпер яшчэ адзін варыянт, які дэманструе бясконцыя магчымасці тэатра лялек: поўнае зліццё лялькі і выканаўцы, якое распаўсюджваецца на ўвесь спектакль, на кожнага героя. Пастаноўка заканчваецца — і «лялькі» ажываюць, прыводзячы залу ў дзіцячае захапленне. Бо з-пад маршчыністых масак на нас пазіраюць маладыя твары; целы, што хвіліну назад былі старымі, напаўняюцца жыццём — маладосць здымае адзенне гадоў. І зразумелым становіцца рашэнне Матэа Сп'яцы задзейнічаць у спектаклі пра старасць маладых акцёраў. Так акцэнтуецца ўвага на філасофскім змесце прэм'еры: старэе цела, а вось ці старэць душою, кожны вырашае сам.

Другая прычына крыецца ў падрыхтоўчым працэсе. Матэа Сп'яцы застаецца верным сабе і стварае спектакль у суаўтарстве з акцёрамі, што, па-першае, максімальна раскрывае іх патэнцыял, а па-другое, робіць пастаноўку надзвычай жывой. Акцёры працуюць не на чыюсьці думку, а на сваю ўласную, беручы ўдзел у стварэнні сюжэта, сваіх персанажаў, тэатральнага мэсэджу, таму яны так наэлектрызаваны энергіяй, што перадаецца кожнаму гледачу. Такі тэатр, што ствараецца ўсімі (ад рэжысёра да мастака), сёння пакрысе прыходзіць і да нас, руйнуючы рэжысёрскую манаполію.

## ПРЫЧЫНА 3: ТЭМАТЫЧНАЯ

Матэа Сп'яцы, вядома, не адкрывае Амерыку: і без «Пансіёна *Belvedere*» ёсць у нас спектаклі, якія з розных бакоў падыходзяць да актуальнай ва ўсе часы тэмы старасці. Так, «Вечар» у Купалаўскім тэатры акцэнтуе ўвагу на старасці з беларускім прысмакам: у глухой вёсачцы засталіся дажываць свой век трое старых, заблытаўшыся ва ўласных гадах. Іншай, больш меладраматычнай атмасферай прасякнуты спектакль «Крыху пяшчоты» ў Тэатры юнага гледача. У цэнтры пастаноўкі — каханне, якое можа пасяліцца і ў доме міласэрнасці. Прэм'ера ж знайшла сваю, яшчэ непратаптаную сцежку да набалелых пытанняў, паказаўшы старасць вачыма маладосці (нагадаем, што ўзрост як рэжысёра, так і акцёраў яшчэ далёкі да пенсіённага). Мо таму і атрымалася так светла і цёпла? Маладосць жа заўсёды верыць у лепшае.

«Пансіён *Belvedere*» не абапіраецца на тэкставую аснову ў выглядзе айчыннай ці замежнай п'есы. Гэта такі спектакль-развага стваральнікаў на тэму таго, як можа выглядаць адзін дзень з жыцця пансіёна састарэлых. Напачатку дзеянне нагадвае даволі павольную рэалістычную замалёўку, якая лёгка магла б ператварыцца ў паўнавартасны дакументальны спектакль. Аднак адбываецца процілеглае: у няспешную побытавую рэальнасць украпваюцца зусім нерэальныя, нават казачныя рэчы. Званкі смерці, сама нелагічная загадкавая смерць і, у рэшце рэшт, фінал з каханнем у квадраце, шчасцем у кубе. У рэальнасць яго проста немагчыма паверыць, але ж і не трэба, бо ў дадзеным выпадку мэта — не фіксацыя рэальнасці, а спроба насычанымі, прамымі, часам грубымі прыёмамі (камедыя дэль артэ ізноў нагадвае пра сябе) ствярыць аптымістычны, светлы настрой. А праз стварэнне адпаведнага настрою — паўплываць і на думкі гледачоў, якія пасля такога ўсплёску эмоцый свежым вокам паглядзяць на свае стасункі з бацькамі, бабулямі, дзядулямі і на ўласную старасць.

## ПРЫЧЫНА 4: ТРАГІКАМІЧНАЯ

Што ж рабіць, італьянскае сонейка дый мора прыцягваюць больш аптымізму, чым нашыя лясы дый частыя хмары. Нездарма ж і сам Матэа Сп'яцы здзіўляецца: чаму гэта ў Мінску так замала ўсміхаюцца. Яго тэатр — гэта тэатр усмешак, прычым, зусім не сціплых. Вось і «Пансіён *Belvedere*» — ізноў камедыя, толькі з прыметнікам «горкая». Вядома, ад горкіх трагічных момантаў нікуды не падзецца, калі гаворка ідзе пра старасць. Тут табе і горкая немач, калі без мыліцы ці інваліднай каляскі нікуды, і аднастайнасць жыцця, калі сапраўднай падзеяй робіцца звычайны медыцынскі агляд ці абед у сталоўцы, і стасункі з дзецьмі, якія ўспамінаюць сваіх бацькоў толькі дзеля подпісу ў завяшчанні.

З гумарам прадстаўлены тыповыя праявы старасці. Напрыклад, залежнасць старых ад тэлебачання паказана яркай гумарыстычнай замалёўкай, калі барацьба жанчын і мужчын за магчымасць паглядзець серыял ці футбол пераўтвараецца ў бой стратэгічнага значэння. Усмешку выклікае і сляпая любоў старых да сваіх дзяцей, нават калі тыя і не заслугоўваюць яе. Звычайная шакаладка, прынесеная сынам, вядома, з карысным мэтамі, робіцца прадметам невераґоднай гордасці. З добрым гумарам паказаны і самі старыя жыхары пансіёна, дакладней — іх слабасці. Заляцанні старых мужыкоў, п'яны дэбош немаладой кабеты, падпольныя гандлёвыя аперацыі вакол сталоўкаўскіх страваў. Аднак усмешкі выклікаюць не толькі старыя, але і маладыя разам са сваімі слабасцямі, што робіць спектакль сапраўды сумленным. Абыякавае стаўленне да сваёй працы і пагардлівае — да жыхароў пансіёна, папулярнае сёння захапленне сэлфі, якое часцяком проста скажае рэальнасць, — ёсць над чым пасмяяцца... Прэм'ера знайшла залатую сярэдзіну паміж смехам і роздумам, калі спектакль пры захаванні сур'ёзнасці пасылу дасягае яшчэ і моцнай менавіта пазітыўнай энергетыкі. Такому яскраваму выкарыстанню гумару ў спектаклях з нялростай тэмай нам яшчэ трэба павучыцца ў італьянцаў.

## ПРЫЧЫНА 5: ВЫНІКОВАЯ

Апошняя зорачка «Пансіёна *Belvedere*» складаецца з усіх вышэйзгаданых. Гэтым разам у тэатра атрымалася стварыць спектакль, які, з аднаго боку, зацікавіць шырокага гледача, з другога — не страціць і аўдыторыю прыдзірлівых тэатралаў. Сітуацыя ўнікальная, бо дагэтуль дарослыя спектаклі тэатра былі сапраўдным інтэлектуальным, культуралагічным, эстэтычным іспытам, адолець які можа далёка не кожны.

Прэм'ера ж знайшла ключыкі для ўсіх. Тэатралаў яна прыцягне свежай італьянскай рэжысурай, простай, але выйгрышнай сцэнаграфіяй, дзе ўсё да месца і ўсё працуе, арыгінальнымі акцёрскімі работамі; звычайнага гледача — багаццем гумару, адсутнасцю тэматычнага дый культуралагічнага бар'ераў. Спектакль не абмяжоўвае аўдыторыю зваротам да пэўнай літаратуры, ці то Арыстафан, Караткевіч, Мальер або Чэхаў (калі для поўнага пападання ў сэрца і розум гледача той павінен усё ж такі валодаць літаратурнай крыніцай, прычым, лепей — не павярхоўна). Цяжка ўявіць, каб такі спектакль трапіў у душу, напрыклад, прудкаўскіх жыхароў Горвата, якія выраўшылі б пазнаёміцца са сталічным жыццём. «Абы-што!» — сказала б цётка Дуня. Але штосьці падказвае, што «Пансіён *Belvedere*» цалкам угаснуў бы іх у сваю шчырую, простую, да таго ж кароткую (усяго 70 хвілін!) гісторыю, а каларытныя персанажы яшчэ доўга ўспаміналіся б у размовах.

Нягледзячы на свае пяць зорак, «Пансіён *Belvedere*» ўмясціў нумары на любы густ і тэатральны «бюджэт».

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**

# Дзе месца маладым?

Кінематаграфічная адукацыя амаль увесь час лічылася не толькі абавязковай, але і прэстыжнай: раней, калі рэжысёр скончыў ВГІК, з ім пагаджаліся працаваць нават самыя патрабавальныя заказчыкі. Сёння дыплом прафесіянала паціху губляе сваю прывабнасць для маладых, некаторыя наогул лічаць, што спецыфічныя веды не патрэбныя, калі вельмі хочаш здымаць кіно, то так ці інакш асвоіш гэтую справу. Але ёсць і тыя, каму дыплом Акадэміі мастацтваў неабходны — не толькі як пацверджанне прафесіяналізму, але як знак датычнасці да кінематаграфічнай школы, што створана ў нашай краіне.

Між тым на факультэце экранных мастацтваў, які быў створаны адмыслова для напаўнення беларускай кінастудыі кадрамі, спецыялістаў для сферы кіно навучаюць за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту з абяцаннем даць кожнаму кінематаграфісту першую сталую працу. Галоўнае ў Беларусі дзяржаўнае прадпрыемства, дзе спецыялісты ў сферы кіно могуць быць запатрабаваныя, — Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм».

Сёлета з Акадэміі мастацтваў выпускаюцца тэле- і кінарэжысёры, тэле- і кінааператары. Калі ў спецыялістаў з прыстаўкай «тэле» праблем з размеркаваннем наогул не бывае (у рэспубліцы шмат тэлеканалаў), то ў кінематаграфістаў, якіх набіраюць на курс раз на 5 гадоў, не так усё адназначна. У прыватныя кінакампаніі ім трапіць складана: там ужо як правіла ёсць свае спецыялісты, і на «Беларусьфільме» дасведчаных рэжысёраў ужо хапае. Дэкан факультэта экранных мастацтваў Акадэміі мастацтваў Павел Іваноў адзначыў, што хтосьці са студэнтаў спрабуе знайсці працаўладкаванне сам, часам трапляе ў прыватную кінакампанію ці кінашколу для дзяцей. З васьмі рэжысёраў, якія, згодна з дыпломамі, стануць улетку прафесіяналамі, 4 знайшлі сабе месца працы. Але частка спецыялістаў спадзяецца на запатрабаванасць у дзяржаўных структурах.

Вырашаецца працоўны лёс 4 кінарэжысёраў і 4 кінааператараў. Кіраўніцтва факультэта вядзе перамовы з кінастудыяй «Беларусьфільм», якая магла б прапанаваць дыпламаваным рэжысёрам толькі месцы асістэнтаў. Сярод сёлетніх выпускнікоў факультэта экранных мастацтваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў ужо цяпер ёсць кінематаграфісты, якія не раз перамагалі на міжнародных фестывалях, даказвалі свой прафесіяналізм не словамі, а фільмамі. Магчыма, іх узровень недастаткова высокі для кінастудыі? Але ж дзе маладым шукаць досвед, калі іх не прымаюць нават на першую сур'ёзную працу? Хочацца, каб «маладая кроў», якая можа дапамагчы аднавіць беларускі кінематограф, знайшла сваю працу і каб праца знайшла сваіх таленавітых рэжысёраў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# КАРАТКЕВІЧ, ГРУШАЎКА І МУЗЫЧНАЯ АНІМАЦЫЯ:

## новы выбар для айчыннага гледача

**У Міністэрстве культуры падсумавалі вынікі прадпіпчыngу і вызначыліся з тэмамі Адкрытага рэспубліканскага конкурсу кінапраектаў на 2017 — 2019 гады. На папярэднюю абарону творчых ідэй кінапраектаў і кінасцэнарыяў было пададзена 165 заявак (працы могуць быць створаныя ў ігравой, дакументальнай ці анімацыйнай форме).**




У склад журы ўвайшлі спецыялісты ў сферы кінематографа — кіназнаўцы, рэжысёры, акцёры і іншыя спецыялісты, менавіта яны і вызначалі, якія праекты будуць дапушчаныя да абароны на адкрытым конкурсе кінапраектаў. Колькасць адабраных ідэй дае падставы стварыць 64 беларускія стужкі.

У катэгорыю анімацыйных фільмаў трапілі 24 сцэнарыі. З іх 22 задумы кінематаграфістаў Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» і па адным праекце ад ААТ «Кінасфера» і ААТ «КінаВідэаКампанія». Дзяржаўная кінастудыя прапанавала да разгляду цікавыя мультфільмы для дзяцей, заснаваныя на народным фальклоры, прыгодніцкую анімацыю, гісторыю Беларусі, пазнавальныя апавяданні для дзяцей, а таксама анімацыйнае кіно для дарослага гледача (напрыклад, «Плачку» па Яну Баршчэўскаму). З'явілася і новая катэгорыя «Анімацыйны мюзікл» па кнізе Генадзя Давыдзькі «Зоркі сёмага неба», які прапанавана зняць Алене Туравай. Наогул, сярод тых, хто будзе здымаць анімацыйныя работы, шмат прызнаных беларускіх майстроў і лаўрэатаў фестываляў: Тацццяна Кубліцкая, Аляксандр Ленкін, Ігар Воўчак, Ірына Кадзюкова, Вольга Пяткевіч ды іншыя. Прыватныя кампаніі прапанавалі дзіцячыя прыгоды пра дамавікоў і пазнавальныя гісторыі пра захаванне казак.

У здымках дакументальнага кіно (а гэта 54 стужкі) акрамя беларусьфільмаўскай студыі «Летапіс» паўдзельнічаюць прыватныя кампаніі: ААТ «Студыя "Стопкадр"», ААТ «Кінасфера» і ПУП «Студыя Р-2». Кінематаграфістам прапанавана стварыць, напрыклад, вобразы нашых сучаснікаў, таму і прадстаўленыя сцэнарыі пра шахцёраў, участковых, урачоў, проста шчаслівых людзей. Не засталася без увагі тэма беларускай сям'і — мяркуецца стужка Галіны Адамовіч «Папоў і Кліп». Не абмінулі і міжнародныя сувязі Беларусі, нашыя спартыўныя дасягненні, здабыткі сучаснай моладзі. Асабліва прыемна, што на гэтыя важныя тэмы змогуць выказацца не толькі вядомыя рэжысёры (Віктар Аслюк, Вольга Дашук, Ірына Волах), але і маладыя кінематаграфісты (напрыклад, Дар'я Юркевіч і Аляксандра Маркава).

Прапануюцца дакументальныя стужкі пра выбітных суайчыннікаў: кіно пра грамадзяніна стагоддзя Максіма Танка, якое зрэжысуе Аляксандр Анісімаў, гісторыя беларускага пісьменніка Віктара Карамазава, новы погляд на адраджэнне Грушаўкі і нават беларускі жартоўны фальклор.

Чаго чакаць ад айчыннага ігравога кіно? У наступныя тры гады павінны быць рэалізаваныя 17 задум фільмаў (прапанавана да разгляду было 87 сцэнарыяў). Доўгачаканая экранізацыя «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» У. Караткевіча, шэраг фільмаў пра беларускіх герояў: Рагнеду (асабліва актуальна пасля таго, як беларускі глядач убачыў расійскага «Вікінга»), Вітаўта (ідэі абодвух фільмаў прапанавала студыя «*Nonstop Media*», вядомая праектам «Код Каіна»), Янку Купалу. Таксама чакаюцца сямейныя і навагоднія камедыі, фільмы пра Беларусь сучасную і прысвячэнне 100-годдзю Узброеных Сіл, а навагоднюю камедыю, ініцыяваную рэжысёрам Андрэем Курэйчыкам, яму прапанавана рэалізаваць пры ўдзеле маладых кінематаграфістаў.

Нягледзячы на тое, што спектр сцэнарыяў, якія яшчэ будуць змагацца за перамогу на адкрытым конкурсе кінапраектаў, досыць шырокі, большую частку фільмаў мяркуюць зняць на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», і толькі некалькі фільмаў — прыватнымі кампаніямі. Усцешвае, што зацікаўленымі ў айчынным кіно застаюцца маладыя кінематаграфісты і сцэнарысты, якія могуць прапанаваць новыя ідэі і арыгінальныя рашэнні па тэмах, прыярытэтных для Міністэрства культуры.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# КОЛЕРЫ СТУЖАК КРАСАВІКА

**1** Калісьці ініцыятар «**Беларускіх уік-эндаў**» зразумеў, што прыйшоў час паказваць кіно на беларускай мове. Яго ідэю падтрымалі аднадумцы, і паказы фільмаў у беларускай агучцы цяпер ладзяцца ў кінатэатры «Масква» штомесяц. З 28 па 30 красавіка на беларускай мове загавораць героі постапакаліптычнага баевіка «Кніга Ілая»: фільм агучылі вядомыя беларускія акцёры Павел Харланчук, Святлана Цімохіна, Зміцер Саладуха, Ганна Хітрык ды іншыя.



Склад у «Кнізе Ілая» зорны, бюджэт вялікі, а атмасфера постапакаліпсіса перададзена дакладна. Падчас прагляду гледачоў чакае экскурс у свет, які перажыў атамную вайну, выглядае ён вельмі непрывабна, людзі тут няшчасныя і літаральна б'юцца за тыя дробязі, якія раней лічыліся смеццем. Якой можа быць планета, калі цывілізацыя вернецца да прымітывізму, а вада стане каштоўнасцю, у «Кнізе Ілая» распавядуць без прыўкрас. Адзінае, што яшчэ пакіне ў гледача надзею, — Ілай і яго чароўная кніга.

**2** У Мінску працягваецца праект ***KINOPORT*** — кожную суботу аматары добрага кіно і замежных культур могуць «кінапартавацца» ў іншыя краіны праз знаёмства з фільмамі гэтых дзяржаў. У канцы красавіка яшчэ можна ўбачыць праграму маладога эстонскага кіно «Эстонскія вечнасці і ўцёкі». У склад паказу ўвойдуць адзін дакументальны і чатыры ігравыя фільмы, якія адабралі з праграм фестываляў *Sleepwalkers* і Балтыйскай школы кіно і медыя Талінскага ўніверсітэта.



Нацыянальны кінематограф Эстоніі хутка адзначыць 25-гадовы юбілей, але талентаў у краіне дастаткова. Пра гэта можна меркаваць па тым, якія фільмы прадстаўляюць краіну на міжнародных фестывалях (варта ўзгадаць стужку «Дні, што збілі з панталыку» Трыйн Руумет, паказаную на сёлетнім «Лістападзе»). Што да праграмы *KINOPORT*, то падчас паказаў глядач убачыць гісторыі пра адзіноту, дзіцячую псіхалогію, жыццё ў вёсцы і падарожжы без грошай. Словам, сучаснае эстонскае жыццё ў самых розных колерах. Фільмы пакажуць на мове арыгінала з субцітрамі 29 красавіка ў Музеі гісторыі беларускага кіно.

**3** Міжнародны фестываль кароткаметражнага мастацтва ***Future Shorts*** можна наведаць з 28 красавіка да 3 мая. Тут гледачы ўбачаць і ігравое кіно, і анімацыю — амаль поўны спектр кінематаграфічных шэдэўраў. Міжнародная сетка фестывалю складаецца з больш чым 40 краін, яшчэ ў 10 хутка пачнуцца паказы. Фільмы *Future Shorts* глядзяць і ў Бразіліі, і ў Паўднёвай Карэі, а ў некаторых гарадах паказы наогул ладзяць раз на месяц. Таму магчымасць у мінчан унікальная: у сёлетняй вясновай праграме — пераможцы і намінанты самых прэстыжных міжнародных кінафестываляў.



Арганізатары абяцаюць не толькі забаўляльныя стужкі, але і сур'ёзныя роздумы (не заўсёды пазітыўныя), актуальныя зрэз існавання сучаснага свету — эканамічны крызіс, нацыянальнае і асабістае самаўсведамленне, пошукі сябе ў сёлетнім свеце. Зразумела ж, на кожны праблемны фільм знойдзецца і аптымістычны адказ: кіно пра ратавальны здаровы лад жыцця, румынская камедыя пра першае каханне, паэтычнае кітайскае кіно пра настальгію па родных месцах — знайсці штосьці блізкае для сябе атрымаецца ў кожнага.

# ТАЙНАПІС НАКАНАВАННЯ

На сваёй струне



**Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар**

*Алесю Рашчынскаму*

***Адзінства запатрабавала быць. Збег меладыйных кодаў, фраз і тэм, злучыўшыся з неардынарнай душэўнай арганізацыяй, паводле прыроды высакароднасці духу, прывядзіць да аб'ектыўна пабудаванай вобразнай завершанасці.***

***Ці выпадковы той збег? Гульня без правіл, пры якой жыццё — усяго толькі множнасць дэталяў. Вынік стракатай таўханіны? У якіх каардынатах? Духоўны змест эпохі? Сузалежнасць творчасці? Патрабаванні душы? Духоўны прымус?***

***Асветнікі не перавяліся. Яны змянілі параметры, маштаб, дзейнасць. Нязменнай засталася сутнасць: свяцільня, запаленыя свечкі, узнятыя над хуткаплыннасцю, ліхтары, адным словам, якія агаляюць засмечаныя куты.***

***Прыходзіць асоба. Спакойна ўзважвае сітуацыю і па-гаспадарску пачынае дзейнічаць: зерне ад пустазелля...***

***

*…я напоўнены вамі як студня вадою,*
*зыбкай праўдаю,*
*плыткай няволяй і процьмаю*
*нечаканасцяў,*
*тых,*
*што зліваюцца ў долю...*

Барыс Жанчак

Спіс спраў на кожны дзень. Неадкладных. Важка-працаёмкіх, абавязковых, занудных, перанесеных з мінулага дня: яны пагражаюць свербам запазычанасцяў і паглыбляюць пачуццё віны.

Побач са сталактытамі неадкладных спраў струменіцца смуга нечаканых выпадкаў, супадзенняў, сустрэч. Яны не пакідаюць знакаў, не вабяць рамантычнай няўлоўнасцю. Яны — вогненныя імгненні жыццёвай плазмы, маланкавыя сцвятлякі. Яны і мяняюць ход падзей.

Адолеўшы пераход, атрымліваеш узнагароду — апынаешся ў іншым месцы, дзе людзі-вандроўнікі ідуць насустрач, нібы высокую траву, адхінаюць сваю надзённасць і, прыпыняючы хаду, наближаюцца да знямоглага — каб дапамагчы.

***

Дзячучо, вагою ў 44 кілаграмы і ростам у 156 сантыметраў, вырашыла супрацьстаяць усёй сістэме, якая ўвасаблялася ў слыннай навучальнай установе праз кафедру КПСС. Разгубленасць дзяўчыны нагадвала разгубленасць скошанай сенажаці: яшчэ ўчора тут буялі красачкі-кветкі, даверліва падстаўляючы свае пялёсткі дажджу-сонцу, а сёння — а ні знаку ўчарашняй пекнаты. Жыццё спынілася.

Алесь чытаў Брэхта і адкрыў старонку кнігі: «У ворагаў праўды больш зброі, больш моцы… зло і мана перамагаюць…»

Алесь прынёс том Шылера і прамовіў: «Драма мае на ўвазе актыўнае дзеянне і пасіўнага слухача — ён глядзіць, а п'еса ідзе».

Зноў вярнуўся да Брэхта: «Патрэбны тэатр актыўнага гледача, які думае для таго, каб дзейнічаць», — і дадаў: «…але тут, на тэрыторы бурбалак, — ціша і спакой. Доля сенажаці — зарунець ізноў».

Кампрамісы не абвастраюць сенсорыку. Перашкодаў для спакушэння не існуе. Сэнс забароны — расставіць ліхтары абапал дарогі і падсвяціць шлях, папросту — паказаць найкарацейшы і дасягальны шлях дасканаласці. Без скажэння няма росту. І ўсё жывое доўжыцца, бо штохвілінна мяняецца. Рабі, што надаеш, ніхто не спыніць.

Сто тысяч пытанняў, якія адно за адным надзённа і востра паўставалі ў дзявочай галаве, раптам усе разам зніклі ад імгненнага і яснага асляпляльнага разумення сутнасці душэўнага разладу.

Прыйшло чыстае і спакойнае разуменне, як гэта цеста мясіць.

Табе, Алесь Рашчынскі, праз усе тонкаматэрыяльныя сады-сукевецці, плыні і вымярэнні — мая падзяка.

***

Хуткасным рэагаваннем, актыўнай дзейнасцю, любоўю да архаікі і абрадавай мелодыкі, экстравагантнасцю і шляхетнасцю Алесь супадаў з любімым ім Ігарам Стравінскім. Творы вызначаліся тэмбравай вынаходлівасцю, ірванымі рытмамі, інструментальнай невычэрпнасцю прыёмаў, дынамічнасцю. Пругкасць мыслення, пругкасць аркестравых партытур нейкім чынам супадалі. Музычная архаіка натхняла зачараванасцю ў фальклор і Бартака, і Кодаі, і Мануэля дэ Фалья, і Равэля...

Алесь пра Ігара Стравінскага пачаў гаварыць прыблізна у 1980-х гадах. Тады, калі кампазітар быў не тое што забаронены, але катэгарычна нерэкамендаваны для навучальнага працэсу, для канцэртнай практыкі. Пра Стравінскага паўсюль было напісана: з дваранскага роду польскага паходжання. Але кожны раз, узгадваючы імя Стравінскага, Алесь рабіў акцэнт: бацька Стравінскага, выбітны бас Марыінскай оперы паходжаннем з Мазыра. Вучыцца яму не было дзе, бо вялікая Расійская імперыя не магла дазволіць грунтоўныя навучальныя ўстановы на сваіх ускраінах. Фёдар Стравінскі накіраваўся ў Санкт-Пецярбург.

…Рашчынскі ладзіў сустрэчы з 1-2-курснікамі кансерваторыі: музыказнаўцамі і кампазітарамі. Рабіў гэта, як цяпер ясна, толькі з энтузіязму і з жадання паведаміць нам, пра што мы самі наўрад ці даведаліся б. Пра новую музыку. Пра новыя імёны, новыя музычныя кірункі, звесткі пра якія можна было знайсці ў вельмі абмежаваным друку.



*Алесь Рашчынскі — студэнт Інстытута імя Гнесіных.*

…я памятаю тыя танюсенькія папяровыя стужачкі, на якіх ахайна былі надрукаваны імёны кампазітараў, на той час нам не вядомыя: Лігеці, Булеза, Штокгаўзэна. Старанна падкрэсленая цытата, назіранне, разважанне пра музыку, сучаснасць. Дакладна памятаю: абраны дзень — серада. Далёкая гістарычна-музычная паралель: у доме М. Рымскага-Корсакава, які стаў для маладога І. Стравінскага другой альма-матар, таксама ладзіліся традыцыйныя музычныя серады, дзе паміж сур'ёзнымі разважаннямі пра музыку лёгка нараджаліся музычныя байкі, каламбуры і нават анекдоты. «Я здаваўся сабе маленькім бедным дзіцяняткам», — прызнаецца ў мемуарах Стравінскі. Дзіўна, але ж і мы пачуваліся ледзь не тымі самымі дзіцяняткамі на сустрэчах з А. Рашчынскім — наіўнымі, няўцямнымі, ціха-шэрымі… да пары. Як і Стравінскі пасля прэм'еры свайго першага буйнога твора — Сімфоніі ма бемоль мажор, пачуўшы прысуд: «Індывідуальнасць аўтара яшчэ няўлоўная…»

Праз нейкі час нашы серады прыпыніліся. Мы нейкім чынам ведалі, што пытанні «Чаму?», «Як так?» задаваць не трэба. Усе мы былі трохі «каровамі на ланцугу». І лангуг — не ланцуг, так, вяроўка. Скінуць лёгка. Але зрабіць гэта думкі не ўзнікала. Не скідвалі, падпарадкоўваліся нацяжэнню. Куды павядуць — туды і йдзем.

***

Мы ўсе аднекуль пачынаемся. Жыццёвыя пасажы і мадуляцыі — наша здольнасць да імправізацыі. І М. Чуркін некалі пачынаў вывучэнне інструментоўкі са знаёмства з барабанам. Баян А. Рашчынскага прывёў у клас прафесара Я. Глебава.

Скончыць маскоўскую «Гнесінку» (у В. Благаабразавай) — і не знайсці зачэпкі, каб стаць масквічом. Не, вярнуўся ў Мінск. Здаў іспыты ў кансерваторыю на кампазітарскае аддзяленне. Зноў вясёлае студэнцтва. Спасціжэнне таямніц кампазітарскай прафесіі з рук пранікліва-патрабавальнага, іранічнага прафесара, ахутанага шызым дымам сваёй незлічонай цыгарэты. Усе былі ў роўных умовах. Кожны вучыўся ў кожнага. Набыты досвед пяцікурсніка ў формаўтварэнні і інструментоўцы быў не менш вартым увагі, чым імпэт і імпульсіўнасць пачаткоўца. Каму сёння належыць захапляльная тэма, каму — кіпучая думка, каму — распаленае ўяўленне, Я. Глебаў вызначаў беспамылкова. Рукапісы новай п'есы, санаты, фантазіі з хваляваннем усталёўваліся на пюпітр, аўтара запрашалі за раяль і праз паўзу — шчырыя гукі-фразы-тэмы: вяршыня дня.

Сёння ты ў ролі крытыка-аналітыка, патрабавальнага і бязлітаснага, заўтра на тваіх хібах і памылках вучацца іншыя, а твае ўдачы абяцаюць ціхае захапленне сяброў і прафесійнае прызнанне пад выглядам ледзь заўважнай усмешкі настаўніка-прафесара, схаванай у цыгарэтны дым.

Творы — фрагменты вялікай споведзі, чарада падзей адной агромністай драмы. Схаванае ад усіх жыццё аўтара сцеражэ глыбіня і ціша. Творчасць — тая брама, праз якую можна вырвацца на волю, збегчы ад назолы-штодзённасці, умоўнасці. Збегчы ў краіну абсалютнай свабоды, якая часам і бывае адзінай. Марудзіць нельга. Час прыспешвае і абвастрае сваю плыннасць. Трэба паспець большае з магчымага. Чым яшчэ злучыць зямны шлях з найвышэйшым наканаваннем?

***

Жыццё мела парогі. Біла сцежкі-дарогі. Імі хадзіла, блукала, шукала. Жыццё збірала каштоўнасці, як ягады ў кошык. Траплялiся горкія. Спажываліся ўсе. Нешта лекавала. Нешта цвярэзіла. Нешта зводзіла ў зман і вяртала да яснасці. Спасціжэнне невядомай глыбіні праз творчасць, праз мастацтва — прыемны выбар: вяртаць узнёслую прыгажосць, а лепш — стварaць яе.

Жыццё выбудоўвалася. Пераадольвала адны перашкоды і стварала новыя. Не эпічна, не велічна. Будзённа і аднастайна. Як здабываюць золата, прасейваючы праз сіта непатрэбны друз. Жыццё выбудоўвалася, цякло плыннай ракой, пазначалася палымянай упартай руплівасцю...

Прыйшло разуменне: бедная беларуская вёска існуе ў сваёй рэальнасці. І рэальнасць тая — таямнічая, неразгаданая архаіка.

Адна сялянская хата з галоднымі дзецьмі, бацькамі і дзядамі змяшчала ў сабе мікра- і макракосмас жыцця ўсіх папярэдніх пакаленняў. Адна сялянская хата — як жыццё прыродных рытмаў, сама арганізаванасць паводле этычных імператываў зямлі і космасу. Абрады і рытуалы — спалучаныя каардынаты, дзе вертыкалі і гарызанталі трымаюць канструкцыю непазбежнай надзейнасці. І песні — гэты вялікі цуд, містэрыя, матрыца. Ты ствараеш яе, яна — узаемна цябе. Песні-матрыцы паяднаны з хатай, з полем, наваколлем. Народжаныя лесам, народжаныя вясною, прадыктаваныя жаўранкам і буслами, яны — гаючая раса.

***

Фальклорныя экспедыцыі, запісы песень, мелодый танцаў, пазней — іх апрацоўкі, пераасэнсаванне і, як вынік, шматгалосае харавое гучанне і было спасціжэннем сэнсу нейкай новай манументальнасці, без якой не ўтрываць напружанасці існавання. У межах новай рэальнасці знойдзена новае рашэнне, выхад на новы ўзровень. Сыход у педагогіку: данесці, абвясціць неабходнае, загучаць па-іншаму, каб не згалеў дух. Выбар і будучыня супалі.

Здзіўленне незнаёмай песняй, тэмбрам, нечаканасць уласнага адкрыцця праходзіць праз пісьмовы стол і адмысловы кампазітарскі слых, прапаноўвалася паслухаць калегам, супрацоўнікам, сябрам, вучням-студэнтам, шматлікай публіцы ў вялікіх канцэртных залах. Новае асяроддзе. Мост, арка, пераход. Перайначваючы Хіндэміта, ён пераконваўся: «Народная песня — гэта сіла, роўная прыцяжэнню зямлі».

Не засталіся па-за ўвагай песні і танцы Чачэрскага раёна, расшыфраваныя песні і танцы Хойніцкага, Светлагорскага, Веткаўскага раёнаў, Гродзенскай вобласці.

Сталі музыкай словы Максіма Багдановіча, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Пятра Звонака, Піліпа Пестрака, Юрася Свіркі…

…толькі ў 1988 годзе 26 апрацовак для дзіцячага хору, 50 апрацовак і расшыфровак беларускіх народных найгрышаў — у 1985 годзе.

А чаго варта назва: «Народныя танцы радзімы Якуба Коласа», напісаныя ў 1990 годзе.

Час знікае, калі праз творчасць выяўляецца аблічча кампазітара. Становіцца няважным, калі твор напісаны. Становіцца важным момант, калі твор здзяйсняецца.

***

***Спіс спраў на кожны дзень. Поліфанічнасць жыцця. Не пазбегнуць ні ціхіх узнясенняў, ні глыбокіх затокаў. Жыццё заканчваецца — поліфанічныя гарызанталі спыняюцца. Спыняюцца застылай лавай, акрэсліваючы свае контуры — ступені духоўнага намагання. Да недаробленага мушаны вярнуцца. Як да нявдзейсненай мары. Да няспраўджанага абяцання самому сабе. Мушаны вярнуцца, каб завяршыць вартае, каб аднавіць разбуранае, каб выправіць скажонае і пакрыўджанае. Калі нешта вартае не завершана — вяртаемся зноўнароджанымі. Прыцягваемся нібы магнітам да пакінутай некалі справы фактам новага нараджэння. Месцам нараджэння. Эфект (сіндром?) пупавіны.***

***Пакідаем пазыкі не толькі з прычыны сваёй нядбайнасці. Пакідаем якар, ставім маяк, каб — вярнуцца…***

***Па сутнасці, кожны з нас, вандруючы праз жыццё, спадзяецца зразумець, чаму існа, якая ўсё ж існуе і звычайна недзе побач, не паўстае перад намі ў сваім ясным абліччы. Якая гульня святлацення тут адбываецца? Якія правілы дзейнічаюць, што нам з нашай купіны яна не відаць? Кажуць, для таго, каб яе ўбачыць, трэба быць у іншым месцы...***

# ГЭТА РЭАЛЬНА!

## Што робіць са з'явамі і рэчамі творчае ўяўленне



Леанід Гоманаў «Вадаспад» (Дзю джай гоу, Кітай), 2012 г.

**У кожнага чалавека сваё адчуванне рэальнасці. Мастакам дадзена здольнасць выяўляць яе ў межах твора. Ці асобнай выстаўкі. Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» прадставіла выставачны праект «Вобраз рэальнасці».**

У ім узялі ўдзел Леанід Гоманаў, Мікалай Андруковіч, Аляксандр Кошалеў, Аляксандр Сяліцкі і Аксана Аракчэева. Аўтары спалучылі два падыходы да рэалізацыі канцэпцыі: першы заключаецца ва ўспрыманні рэальнага свету, які існуе аб'ектыўна, незалежна ад чалавека, другі варыянт — рэчаіснасць з'яўляецца суб'ектыўным спараджэннем свядомасці, непарыўна звязаным з самой асобай, асаблівасцямі яе дзейнасці.

— У мастацтве рэальнасць — асноўная тканіна твора, якая адлюстроўвае адну з яе шматлікіх граняў, — адзначае куратар выстаўкі, мастацтвазнаўца Ксенія Сяліцкая-Ткачова. — Менавіта ў мастацкім вобразе адбываецца зліццё разрозненага матэрыялу рэчаіснасці і асобы аўтара, нараджаецца ўнікальная карціна падзеі, чалавека альбо свету. На выстаўцы прадстаўлены творы мастакоў, для якіх зыходны імпульс у творчасці — захапленне рэальнасцю з яе бясконцай разнастайнасцю і багаццем з'яў, формаў, фарбаў. Кожная праца ўяўляе сабой непаўторны вобраз навакольнага свету, які нясе ўражанні, пачуцці і думкі аўтара. Многія карціны адлюстроўваюць вечную эстэтычную каштоўнасць прыроды, заўсёды новай і дзіўнай у пастаяннай зменлівасці.



Мікалай Андруковіч «Нарачанскія сосны», 2013 г.

Рэальнасць, якую паказвае Леанід Гоманаў, ствараюць пейзажы, ціхія і спакойныя. Да такіх карцін хочацца падыходзіць у момант, калі трэба застацца сам-насам са сваімі думкамі. Горы, туман, вадаспады — з'явы прыроды, якімі немагчыма не захапляцца. Мікалай Андруковіч таксама адлюстроўвае пейзажы, толькі беларускія. Тут у думках можна павандраваць ля Нарачы, зайсці ў глыбіню лесу. Творы аўтара падштурхоўваюць паразважаць пра адзінства чалавека і прыроды. А вось партрэты Аляксандра Сяліцкага можна разглядаць як прысвячэнне блізкім. Карціны напісаныя ў цікавай творчай манеры сучаснага рамантызму і перамяжоўваюцца з творчасцю знакамітых майстроў мінулага.



Аляксандр Кошалеў «Вясна на двары ў Канстанцінаўны», 2010 г.

Важную частку экспазіцыі складаюць нацюрморты. Як адзначыла куратар выстаўкі, глядзячы на іх, паступова пранікаеш у ціхае жыццё рэчаў. У нацюрмортах аўтары з асаблівай выразнасцю захавалі матэрыяльнасць, адчувальнасць, фактурнасць прадметаў, якія ў кантэксце твораў становяцца эстэтычна значнымі аб'ектамі рэчаіснасці.

Кожная работа пражытая мастакамі да апошняй дэталі. Творцы ў сваёй рэальнасці пазбягаюць жорсткасці і цынічнасці, аддаюць перавагу святлу, дабрыні, што ўдасканаліць душу, дапаможа знайсці спакой. Падчас экспанавання выстаўкі ў галерэі «Універсітэт культуры» Ксенія Ткачова зладзіць некалькі спецыяльных экскурсій і распавядзе пра кожнага мастака і яго творчыя арыенціры.

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*



**Пінск па праве лічыцца адным з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі і самым буйным горадам беларускага Палесся. Знаходзіцца ён на рацэ Піне, амаль за 190 кіламетраў ад Мінска. Упершыню Пінск узгадваўся ў 1097 годзе ў Іпацьеўскім летапісе як цэнтр Турава-Пінскага княства. У той час паселішча мела вельмі спрыяльнае геаграфічнае становішча. Праз Пінск праходзіў так званы шлях «з варагаў у грэкі».**

**Аматары гісторыі, якія вандруюць па Беларусі, не могуць не наведаць Пінск — знакаміты рамесны і гандлёвы цэнтр на Палессі на пачатку XIX стагоддзя. Турысты звычайна не абмінаюць падчас вандровак Палац Бутрымовіча, які, безумоўна, упрыгожвае горад. Знакамітая пабудова на галоўнай вуліцы з'явілася ў Пінску ў 1794 годзе. Вялікую цікавасць у гасцей горада выклікае незвычайная архітэктура гэтага будынка. Стыль — пераходны: нешта сярэдняе паміж барока і класіцызмам, з элементамі кананічных форм у некаторых дэталях. Ад барока — мудрагеліста пабудаваны план з увагнутымі і крывалінейнымі вуглавымі часткамі, галоўная зала авальнай формы, двух'ярусная пабудова фасада.**

**Крыху незвычайна тлумачыцца ордэр. Фасад будынка афармлены чатырма калонамі дарыйскага ордэра, якія згрупаваны парамі. Кожная з пар ссунута да сярэдзіны. Від на палац з боку ракі таксама вельмі цікавы. Тут размяшчаецца невялікі парадны дворык, стыль фасада можна назваць нават інтымным. Усё ўнутранае ўбранне палаца выканана ў стылі барока, хаця архітэктурныя элементы больш пасуюць да класіцызму.**

**Сёння ў палацы Бутрымовіча, наведванне якога ўключана амаль ва ўсе турыстычныя маршруты, размяшчаецца ЗАГС.**

**Мікалай КАСЦЭВІЧ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
27.04.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1561.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1418

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686